



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 мая 2017 года №18 (1149)


# 9 мая – Дзень Перамогі

На фотаздымку 18-гадовы маладзечанец Антон Каўбаска з шыльдай, на якой прымацаваныя фотаздымкі яго прадзедаў Рамана Цімафеенкі і Ігната Ерафеенкі. Раман Цімафеенка быў падпольшчыкам, трагічна загінуў у 1942 годзе, падарваўшы сябе. Імем Рамана Цімафеенкі названая вуліца ў Гомелі. Ігнат Ерафеенка быў мабілізаваны ў 1939 годзе. І прайшоў вайну ад першага да апошняга дня, быў цяжка паранены. Пасля вайны працаваў настаўнікам, дырэктарам школы. Пражыў 93 гады.

Праўнук Антон біяграфію сваіх прадзедаў ведае.

– Я ўдзельнічаю ў шэсці памяці, таму што гэта важна для мяне і маёй сям'і.

Шэсце памяці з партрэтамі ветэранаў у Маладзечне адбудзецца 9 Мая. Пачатак а 10 гадзіне. Прыняць удзел у шэсці можа кожны ахвотны.

Дзень Перамогі: старонкі 18-19

Фота Наталлі ТУР.



## З нечаканай праблемай сутыкнуліся жыхары Радашкавічаў: запраўка зачынілася на рэканструкцыю, а бліжэйшая – у Ратамцы

старонка 4

## Дыскатэка ў вёсцы Палачаны: пасля апоўначы пачынаецца самае цікавае

старонка 5

## Партнёрскія роды: Калі мужчыны даведваліся, што буду разам з жонкай на родах, – пацiскалі руку, жанчыны дзівіліся такому жаданню

старонкі 20-21

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# Часцей глядзі на лічыльнік і плаці м

## Як новы падлік спажывання энергарэсурсаў дапаможа Вілейцы зэканоміць і ста




Фота proekt-gaz.ru

Зберагаць энергарэсурсы не толькі экалагічна, але і эканамічна.

ВІЛЕЙКА

**Сёлета Вілейка будзе вучыцца пановаму весці падлік энергарэсурсаў і больш асэнсавана іх выкарыстоўваць. Дзяржаўныя ўстановы горада прымуць удзел у праекце па экалагічным кіраванні.**

У ім удзельнічаюць тры беларускія гарады: Вілейка, Чавусы Магілёўскай вобласці і Ветка Гомельскай.

Праект рэалізуецца грамадскай арганізацыяй "Жывое партнёрства" разам з выканкамамі і грамадскімі арганізацыямі трох раёнаў. Гэта адна з 23 беларускіх ініцыятыў, якія атрымалі фінансаванне дзякуючы Праграме падтрымкі Беларусі Федэральным урадам Германіі.

### Чаму менавіта Вілейка?

Вілейка стала адзіным горадам Мінскай вобласці, у якім будзе рэалізоўвацца праект. Сталася так таму, што горад адпавядае асноўным патрабаванням.

Па-першае, у кастрычніку 2016 года Вілейка далучылася да Пагаднення мэраў па энергіі і клімаце. Гарады-ўдзельнікі гэтага міжнароднага руху бяруць на сябе абавязак да 2030 года скараціць выкіды вуглякіслага газу ў паветра не менш, чым на 30%. Усяго ў Беларусі налічваецца 20 гарадоў, якія падпісалі Пагадненне.

Па-другое, ад 2010 года ў Вілейцы пачалася праца над стратэгіяй устойлівага развіцця горада. На яе і абапіраецца праект.

А па-трэцяе, у раёне ёсць арганізацыі, якія прытрымліваюцца прынцыпаў экалагічнага кіравання.

На Вілейшчыне гэта дзіцячы цэнтр "Надзея", які яшчэ ў 2008 годзе стаў адной з першых у Беларусі непрамысловых устаноў, што выкарыстоўваюць сістэму экалагічнага кіравання. У 2014 годзе Ільянская сярэдняя школа таксама далучылася да экалагічнага руху і атрымала адпаведны сертыфікат. Удзел у праекце прыме таксама грамадскае аб'яднанне "ЗОВіК".

### Вілейка будзе пераймаць украінскі досвед

Праект будзе доўжыцца да снежня 2018 года. Гэтыя паўтара года віляйчан будуць на практыцы вучыць энергаэфектыўнасці. Кіраўнікі праекта ўпэўнены: важна не проста на аўтамаце паўтараць думку аб тым, як важна эканоміць. Мы настолькі прывыклі да надпісаў "Выходзячы, выключайце святло!" і "Эканомце ваду", што не звяртаем на іх увагі.

Важна паказаць людзям, дзе і што яны робяць няправільна ў карыстанні рэсурсамі, як гэта выправіць без складанасцяў і нязручнасцяў і, самае галоўнае, якія выгады яны могуць з гэтага мець. Не толькі грашовыя, але і экалагічныя.

Для таго каб эканоміць рэсурсы, найперш трэба дакладна ведаць, колькі іх рэальна спажываецца. Без штодзённага маніторынгу тут не абысціся. Весціназіранні дакладна і зручна дапаможа спецыяльная камп'ютарная праграма "Энеграбаланс". Аб тым, як гэта будзе выглядаць, распавядае кіраўнік праекта **Ларыса Якавюк**:

– Іскрынка нашага праекта – сістэма штодзённага маніторынгу спажывання энергарэсурсаў (электраэнергіі, цяпла, газу) і вады бюджэтнымі ўстановамі раёна. Гэты працэс мы плануем наладзіць з дапамогай праграмы "Энергабаланс", якую распрацаваў **Дмытро Сакалюк** з украінскага горада Роўна. Да таго ж Дмытро будзе працаваць адным з экспертаў нашага праекта і дапаможа ў арганізацыі маніторынгу.

### Чым адметная ўкраінская сістэма маніторынгу?

– Па-першае, кожная ўстанова будзе штодзённа, за выключэннем выхадных, заносіць дадзеныя лічыльнікаў на сваю старонку ў інтэрнэце, – тлумачыць Дмытро Сакалюк, які ўжо наведаў Беларусь і сустрэўся з прадстаўнікамі беларускіх гарадоў-удзельнікаў. – Сёння спецыялісты ўстаноў запісваюць дадзеныя ў свае асабістыя сшыткі. Праграма дазваляе параўноўваць не толькі дадзеныя за розныя перыяды, але і аўтаматычна разлічвае ўдзельнае спажыванне кожнага з рэсурсаў: на адзінку плошчы, на аднаго супрацоўніка.

Другая перавага – карыстальнік не можа змяніць дадзеныя, якія былі ўнесеныя раней, у адрозненне ад сшытка, які можна замяніць. Да таго ж, дадзеныя можна захоўваць на працягу некалькі гадоў. Праграма рысуе графікі і дыяграмы, якія дазваляюць наглядна паказваць сітуацыю ў раёне і за розныя перыяды часу, і паміж рознымі ўстановамі.

Прынцыпова нічога новага – спецыялісты працягваюць запісваць дадзеныя з лічыльнікаў. Але змяняецца падыход да сістэматызацыі дадзеных.

Камп'ютарная праграма ўжо даказала сваю эфектыўнасць у шматлікіх гарадах і мястэчках Украіны.

– Цяпер 9,8% бюджэту трацішча на аплату камунальных паслуг бюджэтных арганізацый, – кажа **Святлана Вярбіцкая**, намесніца начальніка аддзела эканомікі Вілейскага райвыканкама. – Таму калі пры дапамозе праекта атрымаецца зэканоміць, то ў выйгрышы будуць усе. Зэканомленыя сродкі можна будзе накіраваць у іншыя сферы. Таксама гэта новы штуршок для развіцця горада: нас навучаць карыстацца новымі тэхналогіямі, аб якіх мы дагэтуль не ведалі.

### Далучыцца да праекта можа кожная бюджэтная арганізацыя

Якія ўстановы будуць ахопленыя сістэмай штодзённага маніторынгу? Гэта будуць вызначаць мясцовыя ўлады. Планмаксімум – усе арганізацыі, якія ўтрымліваюцца з раённага бюджэту: навучальныя установы, установы аховы здароўя, культуры і іншыя. Магчыма, распачнуць праект толькі ўстановы адукацыі: у Вілейскім раёне іх 40.

Праграма, якую прапануюць украінскія калегі, дазваляе ў любы момант дадаць новых ахвотных. Любая бюджэтная ўстанова зможа далучыцца да працэсу ў любы зручны для яе момант.

– Мы распаўсюджваем сістэму экалагічнага менеджменту і экалагічнай сертыфікацыі "Белы бусел", – кажа Ларыса Якавюк. – У кожным з праектных раёнаў мы спадзяёмся знайсці як мінімум тры новыя арганізацыі, якія зацікавяцца сістэмай экалагічнага кіравання і пачнуць адпаведную працу. Чым больш будзе такіх устаноў, тым хутчэй людзі змогуць убачыць вынікі агульнай працы.

Сістэма тычыцца і энергаспажывання, і падыходу да збору адходаў, і разумнага выкарыстання сродкаў бытавой хіміі.

Да таго ж установы-ўдзельніцы атрымаюць невялікую фінансавую дапамогу, каб набыць энергаэфектыўнае абсталяванне. Тыя з іх, якія выканаюць усе экалагічныя патрабаванні, атрымаюць сертыфікат "Белы бусел".

### Басейн можа эканоміць электраэнергію, а сталовыя – збіраць макулатуру



Фота забяспечана Ларысай Якавюк.

Кіраўнік праекта Ларыса Якавюк.

Ларыса Якавюк перакананая, што кожная ўстанова ці арганізацыя можа больш ашчадна ставіцца да навакольнага асяроддзя, амаль не прыкладаючы намаганняў.

# ...еней

## ...ць больш экалагічнай



Фота забяспечанае Ларысай ЯКАВЮК.

У дзіцячым цэнтры "Надзея" дзецей вучаць здымаць паказанні лічыльнікаў.

– Навучальныя ўстановы абавязваюць збіраць макулатуру, – прыводзіць прыклад кіраўнік праекта. – Але далёка не ў кожнай сталоўцы вы знойдзеце сметніцу для збору паперы. Між тым, многія прадукты, якія завозяцца ў сталоўку, маюць папяровую ўпакоўку ці прывозяцца ў каробках – тая ж мука ці цукар. Часцей за ўсё сталоўская папера аказваецца ў кантэйнеры з агульным смеццем. А чаму б не сабраць яе асобна?

Падобныя сітуацыі ў бальніцах і медпунктах. Папяровая ўпакоўка ад таблетак і інструкцыі да іх не лічацца макулатурай.

Свой "рэцэпт" ашчаднасці спадарыня Ларыса мае і для басейна, які сама наведвае рэгулярна. Цягам усяго дня святло тут гарыць і ў распранальнях, і ў душавых. Хаця падчас сеансу, які доўжыцца 45 хвілін, там нікога не бывае. У дзень у раскладзе басейна дзевяць сеансаў. У выніку мы маем больш за шэсць гадзін, калі святло гарыць упустую.

– Справа не ў тым, што гэта складаны тэхнічны працэс, – заўважае жанчына. – Можна ж, напрыклад, паставіць датчыкі руху. Мне здаецца, галоўная прычына такой сітуацыі ў незацікаўленасці адміністрацыі і супрацоўнікаў у эканоміі электраэнергіі. Ніхто іх за гэта не пакарае і прэмію не дасць. Таму як ёсць, так і добра.

Новы праект якраз накіраваны на пошук падобных "слабых месцаў". Колькі іх у Вілейцы і цэлым раёне? Гэта стане вядома ўжо праз некалькі месяцаў, калі віляйчане па-новаму пачнуць лічыць энергарэсурсы.

Аляксандра ПАРАХНЯ
E- mail: alesia.ptushka@gmail.com

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.

## Сітуацыя з працаўладкаваннем у Маладзечне на 1 мая 2017 года

На ўліку ў цэнтры занятасці стаіць **1941** чалавек. З іх:

**32%** тых, хто не працуе працяглы тэрмін

**22%** тых, хто звольніўся па дамове бакоў

**6%** тых, каго звольнілі за парушэнне працоўнай дысцыпліны

**30%** – жанчыны

**1,98%** – узровень беспрацоўя ў Маладзечанскім раёне

**3,5** суіскальніка прыходзяцца на адну вакансію



Падчас работы камісіі па працаўладкаванні ад 1 сакавіка да 1 мая:

**больш за 900** чалавек звярнуліся у камісію

**337** чалавек – працаўладкаваныя

**182** чалавек не задаволіла ні адна прапанаваная вакансія

**Астатнія** ад агульнай лічбы ўладкаваныя на сезонную работу

Інфармацыю на рабочай нарадзе ў райвыканкаме агучыла начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва Вольга МАЙСТРЭНКА.

### ЛІЧБА НУМАРА

**2 897** тысяч чалавек

столькі людзей паўдзельнічалі ў рэспубліканскім суботніку, які быў 22 красавіка

**7 420,92 тыс. рублёў**

столькі налічана грошай для пералічэння

Паводле Нацстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.04 | 4.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8694 | **1,8716** |
| Еўра | 2,0409 | **2,0421** |
| Злоты, 10 | 4,8164 | **4,8645** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3177 | **3,2775** |
| Грыўня, 100 | 7,0331 | **7,0640** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **26.04** | **3.05** |
| Еўра | 2.0000/2.0450 | **2.0200/2.0450** |
| Долар ЗША | 1.8550/1.8790 | **1.8600/1.8750** |

### ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.04 | 26.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **13,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,25** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,70** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Часнок, 1 кг | 6,95 | **6,49** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,95 | **1,80** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,29 | **1,29** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,69 | **4,69** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,49 | **2,49** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,95 | **2,75** |
| Радыска, 1 кг | 2,95 | **3,00** |
| Ківі, 1 кг | 4,69 | **4,69** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 0,59 | **2,50** |
| Памідоры, 1 кг | 4,20 | **4,45** |
| Агуркі, 1 кг | 3,79 | **3,65** |
| Перац, 1 кг | 5,79 | **6,45** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,95 | **2,49** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **4,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,59 | **2,65** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,49 | **1,45** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,45 | **3,85** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

НАВІНЫ

## Яшчэ адна аварыя на Віленскай. Зноў адбойнік

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 1 мая ў 7:40.

Кіроўца на аўтамабілі "Мазда" рухаўся з боку вуліцы Віленскай у бок плошчы Старое Места.

Набліжаючыся да пуцеправода, не разлічыў хуткасць і не ўлічыў ўмовы надвор'я і знёс дарожны знак, які ўсталяваны пасярэдзіне пуцеправода.

За рулём "Мазды" знаходзіўся 39-гадовы маладзечанец. Ён быў нецвярозы. У крыві яго аказалася больш за дзве праміле алкаголю.

– Кіроўца не пацярпеў, машына зачапіла раздзяляльную паласу злева, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

**Наталля ТУР.**

## На Вілейшыне бяроза звалілася на машыну, у якой сям'я ехала ў госці

ВІЛЕЙКА

22 красавіка сям'я на машыне "Фольксваген-Транспарцёр" ехала ў госці з Крывічоў у Маладзечна.

Каля вёскі Багданава ад моцнага ветру на капот машыны звалілася бяроза.

Дрэва памяла дах і капот машыны. Лабавое шкло трэснула.

Па словах намесніка начальніка вілейскага РАУС **Кацярыны Млечкі**, тое што шкло не пабілася, засцерагло кіроўцу і пасажыраў ад магчымых траўмаў.

Ніхто не пацярпеў.

## Як дровы сталі прычынай аварыі на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

23 красавіка віляйчанін на аўтамабілі "Фольксваген-Джэта" з прычэпам вёз дровы.

Ля Касцяневічаў борт прычэпа адчыніўся і дровы пасыпаліся на дарогу.

Некалькі калодак трапілі ў рухавік машыны "Сітраэн-Ксантыя", якая ехала ззаду. За рулём быў жыхар Маладзечна.

Кіроўца-віляйчанін спыніўся, вырашыў, што ніякай вялікай шкоды ён не прычыніў, і з'ехаў з месца здарэння.

Аднак мужчыну затрымалі і абвінавацілі за няправільную перавозку грузаў і за тое, што пакінуў месца ДТЗ.

У "Сітраэне" пашкоджаны бампер і парваныя рамяні рухавіка.

Пра гэта расказала намеснік начальніка вілейскага РАУС Кацярына Млечка.

## Скрала банкаўскую картку сяброўкі

ВАЛОЖЫН

Аднойчы ўвечары дзве сяброўкі з Валожына збіраліся на дыскатэку.

Адна сяброўка пазычыла другой сваё адзенне, заплаціла за яе на дыскатэцы.

Раніцай дзяўчына прыйшла вярнуць адзенне. І пакуль пераапраналася, скрала ў сяброўкі пластыкавую картку. Як дзяўчына прызналася, зрабіла гэта таму, што хацела набыць цыгарэты.

Яна ведала пін-код карткі, таму неадназова праглядала баланс, разлічвалася ў магазінах.

Цяпер дзяўчыне пагражае да трох гадоў зняволення.

Пра гэта расказала следчая валожынскага Следчага камітэта **Дар'я Мікуліч**.

## Кіроўца хацеў пазбегнуць сутыкнення, але лось яго дагнаў

ВІЛЕЙКА

Тыдзень таму на аўтамабілі "Фольксваген-Гольф" кіроўца вёз сяброў у бок Рабуні. З лесу з правага боку выскачыў лось.

Мужчына спрабаваў пазбегнуць сутыкнення, але лось усё ж пашкодзіў машыну з правага боку.

Потым забег ззаду, падбрыкнуў заднімі капытамі, пабіў у машыне задняе шкло і пamяў багажнік.

Пасля "злачынства" ўцёк у лес.

Пра гэта расказала намеснік начальніка вілейскага РАУС Кацярына Млечка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# З Радашкавічаў па бензін – у Ратамку

МАЛАДЗЕЧНА

**З нечаканай праблемай сутыкнуліся жыхары Радашкавічаў.**



Некалькі заправак на трасе "Мінск-Маладзечна" зачынілі на рэканструкцыю.

Паблізу мястэчка запраўку закрылі на рэканструкцыю, таму мясцовыя кіроўцы вымушаныя ездзіць па паліва аж пад Мінск. Ці ў Маладзечна.

Мясцовы жыхар **Дзмітры Рабушка** кажа:

– Я працую ў Мінску, таму час ад часу запраўляюся ў сталіцы. Але калі рухаешся ў бок Мінска, сапраўды, бліжэйшая запраўка месціцца толькі ў Ратамцы. Ёсць, праўда, запраўка ў самім Заслаўі, але туды трэба збочваць.

Аднак Дзмітры не кажа пра тое, што на запраўцы ў Заслаўі няма бензіну А-95.

Але не толькі запраўка ў Радашкавічах закрытая на рэканструкцыю.

Карыстальнікі рацыі "Без тармазоў" паведамляюць, што на рэканструкцыю закрытая запраўка "Беларуснафта" на трасе Мінск-Маладзечна паблізу Заслаўя.

Па тэлефоне нам адказалі, што запраўка будзе закрытая да канца мая.

Улічвайце гэта, шаноўныя вадзіцелі, калі выпраўляецеся ў далёкую дарогу.

**Наталля ТУР.**

## Як цікаўны сусед дапамог знайсці машыну, якую ўгналі ў аднавяскоўца ў Мясаце

МАЛАДЗЕЧНА

**Раніцай 22 красавіка ў дзяжурную частку Маладзечанскага РАУС паступіла заява аб угоне аўтамабіля.**

Жыхар вёскі Мясата патлумачыў, што напярэдадні пакінуў незачынены аўтамабіль з ключом каля свайго дома, а сам пайшоў спаць. Прапажу аўтамабіля гаспадару дапамог заўважыць пільны сусед.

Ён убачыў ад'язджаючы "Фіят" і з цікаўнасці вырашыў папытацца па тэлефоне, куды гэта сусед адпраўляецца так рана.

Разам з гэтым суседам гаспадар "Фіята" паехаў шукаць сваю машыну. Рухаліся па слядах колаў. Калі ехалі па лесе, угнаную машыну ўбачылі ў рэчцы Уша. Угоншчык забуксаваў і кінуў яе, а сам уцёк.

У машыне былі ключы ад аўтамабіля "Форд", якія, як высветлілі пазней, належаць жыхару Краснага.

У хуткім часе міліцыя затрымала вінаватага. Як расказаў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**, угоншчык – 18-гадовы жыхар вёскі Краснае, навучэнец адной з сярэдніх спецыяльных устаноў на Маладзечаншчыне.

Аказалася, затрыманы хлопец вінаваты яшчэ ў двух угонах. Па словах Юрыя Багушэвіча, высветлілі, што сёлета ў лютым хлопец угнаў машыну ВАЗ, а ў сакавіку – грузавы аўтамабіль "Рэно".

У дачыненні да затрыманага ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Угон транспартнага сродку". Вінаватаму пагражае пазбаўленне волі тэрмінам да пяці гадоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына арганізаваў самагонны бізнес у цешчыным хляве. "Бізнес" закрыла міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікам Маладзечанскага РАУС пра буйную вытворчасць самагону паступіла аператыўная інфармацыя. Пасля праверкі самагонны апарат і буйныя ёмістасці з брагай знайшлі ў хляве 61-гадовай жыхаркі вёскі Замосце на Маладзечаншчыне.

У другім памяшканні ў пластыкавых каністрах быў гатовы да рэалізацыі самагон.

Усяго знайшлі 21 тону брагі і 120 літраў гатовай прадукцыі. Гэта самая буйная ліквідацыя сурагату ў Мінскай вобласці за апошнія пяць гадоў.

Па інфармацыі міліцыі, вытворчасць алкаголю арганізаваў 39-гадовы зяць жанчыны. Ён ужо быў у полі зроку міліцыі за вытворчасць спіртнога.

"Бізнесмен" можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Яму пагражае штраф да 30 базавых велічынь (690 рублёў). Самагонны апарат канфіскуюць, спіртное і паўфабрыкаты самагону знішчаць.

**Юры КАБАКОЎ, першы намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС.**

## Труп мужчыны знайшлі на рэштках згарэлага ложка

ВІЛЕЙКА

1 мая на пажары ў вёсцы Скарада на Вілейшчыне загінуў мужчына.

Пра пажар паведаміў сусед пасля 11:00.

Калі выратавальнікі прыехалі, гарэў дах.

Мясцовыя жыхары расказалі, што ў хаце можа знаходзіцца гаспадар.

Калі пажар патушылі, на рэштках згарэлага ложка знайшлі труп мужчыны. Мяркуюць, што гэта і быў гаспадар.

Згарэў увесь пакой, дзе ляжаў мужчына. Разглядаюць прычыну – неасцярожнасць пры курэнні.

Па словах суседзяў, апошні раз яны бачылі мужчыну ўвечары 30 красавіка ў нецвярозым стане.

Мужчына жыў і працаваў у Вілейцы, а ў вёску прыязджаў на выхадныя.

Пра гэта расказаў інспектар МНС **Дзмітры Кляшняк**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



На пажары ў вёсцы Скарада.

# Дыскатэка ў вёсцы: пасля апоўначы пачынаецца самае цікавае

МАЛАДЗЕЧНА

**– Гэта вясковая дыскатэка, тут трэба лічыцца з мясцовымі, не рамсіць, – расказвае ды-джэй Сіні, або проста Яўген, які працуе тут амаль год.**


Фота Наталлі ТУР.

Хаця на дыскатэцы ў Палачанах не так і шматлюдна, але тыя, хто ўсё ж прыйшоў, не сумуюць.

– Пакуль прывыклі, да мяне таксама ўзнікалі пытанні, хто я такі і адкуль тут узяўся.

У суботу, 29 красавіка, "Рэгіянальная газета" вырашыла, што трэба з'ездзіць на дыскатэку ў Палачаны і пераканацца ў тым, ці байкі гэта, што не мясцовых там абавязкова б'юць.

Прыехалі мы а палове на дзясятую гадзіну вечара.

На ганку перад Домам культуры было шматлюдна.

Класіка жанру: пад ганкам стаіць машына, у ёй адкрыты багажнік, з дынамікаў гучна іграе музыка. Свая атмасфера.

Па праўдзе сказаць, ніхто нават не пацікавіўся, хто мы і адкуль.

Калі перад намі адчынілі дзверы на танцпляцоўку – адкрылася карціна маслам.

Пад песню "Віцю трэба выйсці" вытанцоўваў адзін хлопчык, узросту прыкладна сёмага класа.

Окей, самы час пагутарыць з ды-джэем, які працаваў спецыяльна для аднаго чалавека.

Яго завуць **Яўген Сініковіч**. Ён вучыцца на другім курсе ў маладзечанскім музычным каледжы. Яўген – флейтыст, удзельнік студыі эстрадных спеваў "Брава".

– А жыву я ў Смаргоні, таму тут, у Палачанах, двойчы не мясцовы, – смяецца хлопец.

На пытанне, ці заўсёды ў клубе так "шматлюдна", Яўген адказвае:

– На Новы год і іншыя святы збіраецца каля 300 чалавек. А цяпер, калі адключылі ацяпленне, народу ходзіць няшмат. Але так яно лепей, калі не збяруцца людзі, можна будзе раней паехаць дадому.

Пакуль мы размаўлялі з ды-джэем, па таго адзінага танцора прыйшоў, відаць, бацька. Хлопчык забраў з падваконня куртку і пабег.

– Папулярнасцю сярод наведнікаў карыстаюцца сучасныя хіты, тыя, што круцяць па музычных каналах. У мяне ўсе яны ёсць, таму паставіць песню, якую просяць, не складана.

І толькі пасля 10 гадзін вечара ў танцавальную залу пачала заходзіць моладзь.

**Квіток на дыскатэку каштуе 1,5 рубля.**

Танцавалі двума коламі.

Ды-джэй у мікрафон абвясціў, што сёння на танцпляцоўцы прысутнічае "Рэгіянальная газета", і сапсаваў усю задуму патусавацца неапазнанымі.

Затое наведнікі ахвотна ішлі на кантакт.

### Усё добра, людзей толькі няма

Напрыклад, **Алена** расказала пра тое, што прыязджае ў Палачаны з Яхімоўшчыны.

– Бывае, што ездзім у Маладзечна, але часцей усё ж такі сюды.

Дыскатэка ў Палачанах заканчваецца апоўначы.

– А потым, няўжо дадому?

– О, не, – працягвае Алена, пасля 12 ночы пачынаецца самае цікавае.

На пытанне, што такога цікавага пачынаецца пасля апоўначы, Алена загадкава прамаўчала. І пра тое, што было пасля, мы так і не даведаліся.

Іншая наведніца дыскатэкі – высокая 19-гадовая брунетка Дар'я. Яна прыехала з суседняй Яхімоўшчыны і прызналася, што пасля паўналецця стала на вясковай дыскатэцы рэдкай госцяй:

– Вы самі паглядзіце, як мала людзей, прычым сёння яшчэ больш-менш. Таму часцей збіраемся ў маладзечанскіх клубах ці барах. Толькі таму, што там шмат моладзі. Астатняе тут усё добра, асабліва ды-джэй – лепшы не бывае!

### Якая вясковая дыскатэка без мардабою?

У Доме культуры чатыры работнікі, з іх два творчыя, а два тэхнічныя. Мастацкі кіраўнік **Ларыса Язневіч** і дырэктар **Максім Сарока** падчас дыскатэкі самі ў клубе, сочаць за абстаноўкай.

Ад 19:00 да 22:00 – дыскатэка для непаўналетніх, ці, як яе называюць у ДК, "дзіцячая". У гэты час танцуюць адзінкі. Як распавядае мастацкі кіраўнік, нікога ганяць не трэба. Усе дысцыплінаваныя, без пяці дзесяць самі акуратна забіраюць курткі і ідуць дадому. Ад 22:00 да 24:00 працуе дыскатэка для дарослых.

– Калі рабілі рамонт, то жалюзі павесілі не такія, што ўсё акно закрываюць, а вугалком, – расказвае мастацкі кіраўнік. – Калі яшчэ светла, памяшканне яны зацямняюць не да канца. Затое малыя, як сыходзяць, зазіраюць яшчэ ў вокны, глядзяць, што ж там на дарослай дыскатэцы робіцца.

Большасць наведнікаў – гэта школьнікі. Усёй вёскай у Доме культуры святкуюць Каляды, Новы год, вечар сустрэчы выпускнікоў, – у святы прыходзяць і бацькі, і дзеці. На Купалле ДК ладзіць выязную дыскатэку ў Яхімоўшчыне.

Тут прытрымліваюцца і рэлігійнага календара. У пост дыскатэкі не праводзяць, але калі б і праводзілі, то людзі самі не прыйшлі б, асабліва ў пост перад Вялікаднем, расказваюць клубныя работнікі.

– Большасць наведнікаў – мясцовыя, часам прыязджаюць з Яхімоўшчыны, – гаворыць Ларыса Язневіч. – Як пачаў працаваць малады ды-джэй, то нават з горада пачала прыязджаць моладзь паглядзець на сапраўдныя вясковыя танцы.

Ці праўда, што "сапраўдныя вясковыя танцы" не абыходзяцца без бойкі, расказаў Максім Сарока:

– Такое меркаванне было яшчэ нядаўна – якая вясковая дыскатэка без мардабою. Але і тады такое не часта было, толькі адзінкавыя выпадкі. Калі разборкі пачынаюцца, гэта адбываецца не ў сценах клуба. Цяпер людзі ведаюць, для чаго прыходзяць – адпачыць, патанцаваць.


Фота Наталлі ТУР.

Ды-джэй – лепш за якога няма! Так наведніцы дыскатэкі кажуць пра Яўгена Сініковіча.

### Пад што танцуюць у Палачанах

Тут ладзяць тэматычныя дыскатэкі. І ў залежнасці ад тэмы падбіраюцца кампазіцыі – напрыклад, да Дня святога Валянціна ці 8 Сакавіка.

– Калі нешта заказваюць, нікога не крыўдзім, – кажа дырэктар ДК. – Вядома, што найперш глядзім на кантынгент, і ў залежнасці ад яго ставім песні. Як правіла, ды-джэй працуе так, што ўсіх музыка задавальняе, ён адчувае аўдыторыю.

– Калі старэйшыя людзі, можа даваць музыку 90-х, калі моладзь – то самае сучаснае, – дадае Ларыса. – А ў Яхімоўшчыне разоў пяць усё заказвалі "Бачылі ноч".

Зімой на дыскатэцы больш людзей. Самы сезон – ад кастрычніка да сакавіка. А цяпер, калі ў 8 вечара светла, многія проста стаяць пад Домам культуры.

– Яны могуць купіць білет і пастаяць пад клубам, таму што музыка чуваць усё роўна. Тры машыны пастаяць, ім весела, – гаворыць Максім Сарока.

– У нас непаўналетнія, яны ў горад паехаць не могуць, – дадае Ларыса Язневіч. – Але часам, бывае, патанцуюць тут, а пасля паедуць у горад.

### "Дыскатэка вычарпала сябе"

Адміністратары скардзяцца на тое, што на дыскатэках надта мала людзей, і калі год пяць таму было чалавек 300, то цяпер – 20-30. Разважаем з кіраўніцтвам, чаму так адбылося.

– Дыскатэка як форма работы сябе вычарпала нават на вёсцы, – падсумоўвае дырэктар. – Калі б яна была да гадзіны ночы, асабліва летам, магчыма, хадзілі б, і то спрэчна. Вясковыя не тое, каб бягуць, але адток у горад заўважны, асабліва моладзі. А для старэйшых людзей – агарод, гаспадарка. Яшчэ год пяць таму наш клуб быў адным з цэнтраў дыскатэчнага руху раёна.

**Такіх клубаў было не так і шмат: Палачанскі, Беразінскі, Красненскі і Лебедзеўскі. Яны грымелі на ўвесь раён, давалі вельмі някепскую выручку. Але пасля таго, як законам абмежавалі прысутнасць непаўналетніх толькі да 22 гадзін, рэзка, вельмі рэзка гэта ўсё пайшло на спад.**

Цяпер, я мяркую, аднавіць гэта практычна немагчыма. Прытым, што мы зрабілі стаўку на моладзь, запрасілі добрага маладога ды-джэя, і больш за год спрабуем падняць наведванне, але асаблівага поспеху не дасягнулі. Хаця і анансуем і ў школе, і ў сацыяльных сетках, робім афішы, і ўсё роўна.

– Чым жа тады займаецца моладзь у Палачанах? – пытаемся ў работнікаў клуба.

– Ох, і чым яны займаюцца? – уздыхае мастацкі кіраўнік.

– Наколькі я ведаю, нават бары цяпер асабліва не наведваюцца, – мяркуе дырэктар. – Што яны робяць? Ходзяць у госці адзін да аднаго. Тым больш, цяпер у вёсцы шмат пустуючых дамоў. А дома – інтэрнэт.

Касірка наўздагон запрасіла нас прыязджаць часцей, ды яшчэ і сяброў падцягваць: "Можа, хоць выручка ажыве".

Наталля ТУР,
Зоя ХРУЦКАЯ.

# У школе вісіць карціна з “Рэгіянальнай газетай”

МАЛАДЗЕЧНА

**– Мама! Што я табе пакажу, – і дачка-пяцікласніца, схапіўшы мяне за руку, пацягнула па бясконцых калідорах сваёй маладзечанскай школы №14.**

Мы падбеглі да сцяны і спыніліся перад адной са шматлікіх карцін. У вялікай лужыне адлюстроўваюцца старыя дамы. А на мяжы адлюстравання паміж рэальнай явай і яе адбіткам ляжыць разгорнутая газета. І якая б вы думалі? – “Рэгіянальная”.

Цяпер зразумела, чаму дачка, лётаючы па калідорах роднай школы, сярод безлічы карцін звярнула ўвагу менавіта на гэту.

І як тут было не распытаць настаўнікаў пра гісторыю твора?

## Чаму ў школе на кожным паверсе карцінныя галерэі

Мая субяседніца, настаўніца выяўленчага мастацтва **Марына Чарняцова**, якая працуе ў школе ад часу яе адкрыцця, прыгадала падзеі пяцігадовай даўніны. Карціна вісіць у школе ад 2012 года.

– У нас ёсць такая традыцыя, – расказала Марына Барысаўна. – Калі дзевяцікласнікі, што вучыліся ў класах з мастацкім ухілам, заканчваюць базавую школу, кожны пакідае ў падарунак роднай школе якую-небудзь карціну.

Па словах настаўніцы, такім чынам дзеці паказваюць, чаму яны навучыліся за дзевяць год, і пакідаюць у школьных сценах (а дакладней, на школьных сценах) памяць пра сябе.

Дык вось чаму на кожным паверсе тут карцінныя галерэі. І напэўна ж, кожная карціна мае сваю цікавую гісторыю, вартую журналісцкага матэрыялу, але пакуль мой расповед пра адну.

## Настаўніца Марына Чарняцова: у вашай газеце адлюстроўваецца гісторыя

Карціну з “Рэгіянальнай газетай” пяць год таму маляваў дзевяцікласнік **Артур Чырыца**. Марына Барысаўна кіравала працай Артура.

– Вучня вельмі захапіла ідэя адлюстравання, – расказала Марына Барысаўна.

Чаму менавіта стары гарадскі двор? Тут думкі настаўніцы і вучня супалі. Палічылі, што менавіта старыя двары, якія ёсць, напрыклад, у мікрараёне Гелянова ў Маладзечне, валодаюць своеасаблівай аўрай. Тут няма гмахаў са шкла і бетону, але ёсць сапраўдная жывая гісторыя.

Толькі старыя двары ёсць у шматлікіх беларускіх гарадах. Таму паўстала пытанне, як жа больш наблізіць карціну да мясцовай тэматыкі. Як падкрэсліць, што карціна – не нейкі адцягнены твор, а ўсё ж звязаны з родным вучню Маладзечнам? І тут на дапамогу прыйшла “Рэгіянальная газета”.

– Газета таксама ўвасабляе ідэю адлюстравання. На газетных старонках, нібыта дамы ў вадзе, адлюстроўваецца наша гісторыя, – тлумачыць Марына Барысаўна.

Настаўніца прызнаецца, што сумненняў наконт выбару выдання для карціны ў іх не было. А якая яшчэ газета самая яркая і пазнавальная ў горадзе?

Калі стары двор і яго адлюстраванне мастак-дзевяцікласнік маляваў больш па памяці, то “Рэгіянальную газету” пісаў “з натуры”.

Артур прыносіў выданне, у час працы газета ляжала побач, хлопец разглядаў яе. Заўважаю, якім шрыфтам напісана назва выдання, як тут размяшчаюцца загалоўкі, артыкулы і фотаздымкі. А потым усё гэта перадаў на карціне.

– Карціна – гэта змешаная тэхніка. Яе Артур маляваў акварэллю і вугалем, – дае прафесійны каментар настаўніца. – Напрыклад, у дамах – больш акварэлі, у самой газеце – вугалю.

Па словах настаўніцы, “Рэгіянальная газета” стала тварам карціны.

Марына Барысаўна ведае, што з мастацтвам хлопец жыццё не звязаў. Аднак перакананая: вучоба ў мастацкім класе прайшла недарма. Уменне бачыць прыгожае і творча мысліць прыдадуцца ў любой прафесіі і ўвогуле ў жыцці.

## Артур Чырыца: вучуся, працую, хутка вяселле. Газету памятаю з дзяцінства

А што думае сам Артур пра колішнюю вучобу ў мастацкім класе і ці памятае сваю карціну з нашай газетай? І як склаўся лёс хлопца?

Артур прызнаўся, што наш зварот і пытанні былі нечаканымі.

Пасля школы хлопец паступіў у педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка, але не на настаўніка малявання. Артур заканчвае факультэт фізічнага выхавання. Вучобу сумяшчае з працай.

– Сёлета ў ліпені ў мяне вяселле з самай цудоўнай дзяўчынай, – падзяліўся Артур.

Па словах хлопца, уменне творча мысліць, якое ён развіў у мастацкім класе чатырнаццатай школы, дапамагае па жыцці ва ўсім. І нават у адносінах з каханай.

Увогуле ж маляванне пакуль не вельмі спатрэбілася Артуру, але ён задаволены вучобай у мастацкім класе.

Маляванне, на думку хлопца, цікавы занятак. Ён заўсёды прыносіў Артуру задавальненне.

Чаму менавіта “Рэгіянальная газета”? Па словах майго субяседніка, гэта выданне з дзяцінства было ў бацькоўскім доме. Артуру “Рэгіянальная газета” падабалася, ён яе ведаў лепш за астатнія.

Таму, калі трэба было абраць газету для карціны, іншых варыянтаў у мяне не было, кажа Артур.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Вучні мастацкага 9 “В” класа Данііл Бутар і Дыяна Кізік сёлета падораць школе свае карціны.




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

У аўтара карціны Артура Чырыцы і яго дзяўчыны Крысціны Катушонак у ліпені вяселле.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Тая самая карціна.

## Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Пежо SV, 2003 г.в, 2,0 НДІ. Т. Вэлком (8-029) 1950373, МТС (8-029) 7657828, Вэлком (8-029) 1056165.

• Рэно-Лагуна 3, 2010 г.в., хэтчбэк, 1,5 CDI, белы. Усе опцыі, без прабегу па РБ, з Францыі (Парыж). Т. (8-029) 6870898.*

• ФВ-Гольф 2, 1986 г.в., 1,8Б, 1300 руб. Т. (8-029) 5990962, (8-029) 1543864, (8-025) 5096621.*

• ФВ-Гольф 7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Форд-Сіера, 1992 г.в, дызель, па запчастках. Т. (8-029) 7736525.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*

• Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*

**Тэлефонныя коды**

| гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэкапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*

• 2-павярховы цагляны дом у Вілейцы. Т. (8-029) 9041668, 56170.

• 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, еўрарамонт, магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• Будынак былой пачатковай школы разам з зямлёй 1,8 га у в. Малінавая Смаргонскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5665809.*

• Гараж у ГБК №6 у Вілейцы. Т. (8-029) 2716012.*

• Гараж у ГК №28 у Маладзечне, новы. Т. (8-029) 8548742.*



• Дача ў в. Клыні, 3 км ад Вілейкі, 10 000 бел. руб. Т. (8-029) 2375721.*

• Дача-домік, 2 паверхі, лазня, у в. Прынта Вілейскага раёна, побач лес, грыбы, ягады, р. Нарачанка. Т. (8-029) 2521686.*

• Дом новы ў в. Івонцавічы, 1 км ад Вілейскага вадасховішча, 300 м да гарадскога прыпынку, газавае ацяпленне, вада, каналізацыя, цёплая падлога, шклопакеты, металічныя дзверы, падвал, склеп, участак 20 сотак. Т. (8-029) 3362460.

• Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 1970 г.п., пабудовы, участак 17 сотак, 100 км ад Мінска. Т. (8-029) 7687670.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в.Доўгае Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Т. (8-029) 7005081.*

• Дом у в. Кардон Вілейскага раёна, участак, побач лес, рэчка. Т. (8-029) 2928728.

• Дом у в.Данілкі Вішнеўскага сельсавета Валожынскага раёна, 1 км ад чыгуначнага вакзала, ст. Багданаў, гараж, лазня, два падвалы, 40 сотак агарода, гаспадарчыя пабудовы, ходзяць аўтобусы: Мінск–Трабы і да Валожына. Т. (8-029) 3119378 Ніна.

• Дом у в.Малевічы Вілейскага раёна, 53 км ад МКД, ільянскі накірунак, цана дагаворная. Т. (8-029) 2749893.*

• Дом у Вілейцы. Тэрмінова! (8-029) 2852295.*

• Кватэра ў 2-кватэрным доме ў Вілейцы, гараж, лазня, участак 20 сотак. Т. (8-033) 6016803.

• Памяшканне 130 кв.м у Маладзечне альбо здам у арэнду. Т. (8-033) 3549222.*

### ЗДАМ

• Пакой для хлопца ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*





## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васькбовіч А.А.*

• Відэа-фотаздымка ўрачыстасцяў, мерапрыемстваў. Т. (8-029) 6201941.*

• Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакал. Баян. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015. Куліковіч Т.І.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба**, ЛАЗНЯ.** vslobode.relax.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.Ш. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаю ўкладку пліткі і абліцоўку сцен. ИП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Гравіроўка партрэтаў. Марчанка В.У. УНП КА 9946513. Т. (8-033) 3518017.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.

Т. (8-029) **651 20 36**.

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, установка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-033) 6228190. Уладзімір.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Тратуарная пліткa, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ
### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блокхаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), **ДОШКА ПАДЛОГІ**, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ** і інш. у Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Сетка-рабіца ацынкаваная. Т. (8-033) 6111186.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40, навяснoе, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• Трактарны аднавосевы прычэп. Т. (8-01772) 33234, (8-044) 1023680.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі з ягнятамі, козачкі зааненскія, узрост 3 месяцы, каза, першы акот. Т. (8-033) 6532888, (8-017) 9751113.

• Каза з казлянятамі. Т. Вэлком 7125657.*

• Шчаняты нямецкай аўчаркі. Бацькі – адны рукі. Высокія адзнакі эксперта. Прышчэпленыя. Ветпашпарт. Т. (8-029) 7005236.

**Іншае**

• Зруб пад лазню 6х4. Т. (8-029) 9426958.*

• Кіёск гандлёвы. Т. (8-029) 6654868.*

• Ровар дзіцячы на 5-10 гадоў. Т. (8-033) 6206381.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Матацыкл "Мінск", Мотаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.*

• Мотаблок альбо міні-трактар, можна няспраўны. Т. МТС (8-033) 6041637.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную і сярэднюю. Т. (8-029) 7082011, (8-025) 7851202.*

• Бульбу буйную. Т. (8-0290 7082011, (8-0290 5694135.*

• Запчасткі да маставых кранаў. Т. Вэлком (8-029) 6764425.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

# Галіна Буркевіч: свае заметкі з "Рэгіянальнай газеты" выразаю і берагу для ўнукаў



Фота забяспечана Галінай БУРКЕВІЧ.

Ілья, 1972 год. Галіна і Віктар Буркевічы з сынамі: 9-гадовым Барысам і 10-месячным Аляксеем.



*Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" віншуе Галіну і Віктара Буркевічаў* ***з 55-годдзем сумеснага жыцця.***

*Жадаем вам моцнага здароўя, дабрабыту ў сям'і, радасці і цеплыні ад вашых родных і далейшага плённага супрацоўніцтва з намі.*

**Калектыў "РГ".**

ВІЛЕЙКА

**У рэдакцыю даслала ліст наша пазаштатная аўтарка з Ілы Галіна Буркевіч. Нагода – сямейная ўрачыстасць. 25 красавіка яны з мужам адзначылі 55-годдзе сумеснага жыцця.**

Добры дзень, паважаная рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты"! Пісала я Вам, можа, гадоў з дзесяць. Сёння налічыла больш за 30 сваіх заметак, дасланых Вам.

Кожную заметку я выразаю, берагу ўсе гэтыя гады. Дзецям наказала, што калі памру, каб не спалілі, а пакінулі ўнукам і праўнукам.

Хай ведаюць, што была бабуля Галя і газета, у якую я пісала, але даўно ўжо не пішу. Апошняя заметка "Ганулька" была летась увосень.

Дык вось, мае дарагія. Пішу, напэўна, у апошні раз. Сёння, 25 красавіка, у нас з маім дзедам вялікая ўрачыстасць. 55 гадоў мы пражылі з ім у міры і згодзе, дажылі да ізумруднага вяселля. Прыйшлі сын, нявестка, унукі, пасядзелі крыху і разышліся.

А мне ўсё думалася, што не кожная пара дажывае да такой даты. Калі прыйшлі дзеці, сын памераў мне ціск, а ён большы за 200 на 134. Прыехала "хуткая", зрабілі два ўколы, выпіла жменю таблетак. Вось табе і вяселле.

Я пакутую на гіпертанію і стэнакардыю. А дзед мой зусім не ходзіць. Яго дагледаюць сын з нявесткай у Ілы. Другі сын жыве ў Мінску, мае малое дзіця, прыязджае рэдка.

А пажаніліся мы з дзедам 25 красавіка 1962 года. Гэта была серада. Да вяселля сустракаліся два месяцы. Пазнаёміліся на Дзень савецкай арміі ў сельскім клубе.

Дзед працаваў у калгасе "Лукавец" камсоргам, а я – акушэркай у радзільні. Муж сам з Ілы. Скончыў ільянскую школу. У мясцовым сельскагаспадарчым тэхнікуме правучыўся тры месяцы, і яго забралі ў войска.

Калі праз тры гады вярнуўся, хацеў вучыцца далей. Але бацька не дазволіў. Маўляў, дзяцей трое, а працуе ён адзін. Трэба і сыну дапамагаць, зарабляць грошы ў хату.

А сам бацька любіў выпіць, хоць меў хворае сэрца.

Віця пайшоў працаваць на хлебапякарню. Аклад у яго на той час быў 45 рублёў, а ў мяне – 50. Наймалі кватэру, плацілі 12 рублёў і набывалі свае дровы.

## Кашулькі і штонікі для сыноў – з адзення бацькі

Праз год нарадзіўся сынок, пайшлі на іншую кватэру. Віктар завочна паступіў у кааператыўны тэхнікум у Баранавічах. Вучыўся тры гады. У 1966 годзе скончыў яго з чырвоным дыпломам.

У гэтым жа годзе паступіў завочна ў Мінск на эканаміста. Скончыў у 1971 годзе. У гэты ж час нарадзіўся другі сынок.

Муж уладкаваўся эканамістам на шклозавод "Залессе". Адпрацаваў там 31 год.

Аклады сталі большымі. Пачалі збіраць грошы, каб набыць уласную хату. Можа б, ён атрымаў жыллё ад шклозавода, але там мне не было работы, ды і садка малому.

Хату купілі. Узялі крэдыт, пазыкі, на ўсім эканомілі. Штонікі і кашулькі хлопцам я сама шыла з Віцевых кашуль і штаноў.

А швейную машынку за 78 рублёў набыла, калі атрымала першы дэкрэтны.

## Першая цацка – машына-самазвал

Даўгі за хату аддавалі гады тры, а можа, і больш. Пра цацкі дзецям і гаворкі не было. Першую цацку, машыну-самазвал, Віктар купіў сыну, калі хлопчыку было тры гады.

Сын гуляў з ёй і дзень, і ноч, вазіў бацькавы кніжкі ці малыя гладкія калодачкі, якія я ў кошыку прыносіла ад свёкра. Віцеў бацька, **Пётр**, рабіў вокны і дзверы.

Мужавы бацькі трымалі карову. Але бацька да той гаспадаркі ні рукою, ні нагою. Мы бралі ў іх малако і рэгулярна плацілі па 30 капеек за літр.

Свякроў, баба **Маня**, сама нарыхтоўвала сена: насіла посцілкамі, сушыла. Хапала да Новага года. А потым да мая сена куплялі, а свёкар піў.

Вось так і жылі. Але былі маладыя, здаровыя. Дзеці гадаваліся. Старэйшы пайшоў у электрыкі. А меншы скончыў у Мінску ўніверсітэт. Працаваў настаўнікам, але кінуў. Цяжка было з неслухамі-дзецьмі, а матэматыка – навука нялёгкая. Цяпер працуе не па спецыяльнасці.

Хлопцы ажаніліся. У мяне сем унукаў і двое праўнукаў. Старэйшая ўнучка спякла смачны торт да нашай урачыстасці.

Жыццё праляцела, як і не жылося. Цяпер адна дарога – у аптэку.

Вось я напісала Вам, і душа супакоілася. А калі не пішу доўга, то нечага не стае.

**Галіна БУРКЕВІЧ.**

## Дзень Перамогі-1975 у Вілейцы: 9 мая глядзіце рэтрафотарэпартаж на сайце "РГ"

ВІЛЕЙКА

9 мая ў 11:00 у Вілейцы на плошчы Свабоды гараджане традыцыйна збяруцца на мітынг, прысвечаны Дню Перамогі.

А хочаце даведацца, як адзначалі віляйчане Перамогу 30 год таму?

Тады глядзіце здымкі вілейскага фатографа **Георгія Цераха** ў рэтрафотарэпартажы "Дзень Перамогі-1975 у Вілейцы" на сайце"Рэгіянальнай газеты" 9 Мая.

Пазнавайце знаёмыя вуліцы і будынкі, шукайце знаёмыя твары.

Некаторых герояў тых старых фотаздымкаў мы пазналі.

А каго пазнаеце вы?

**Аксана ЯРАШОНАК.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

## Як паказаць, што мы памятаем пра 9 Мая?



**Алена Мачэль, настаўніца:**
– Безумоўна, тут недастаткова проста стужачку на грудзі прычапіць. Трэба схадзіць на могілкі да тых ветэранаў, якіх няма з намі. Прыбраць такія знакавыя месцы, як, напрыклад, Любчу і Боркі. Ну, і вядома, наведаць жывых.



**Кацярына Трухан, вучаніца:**
– Я ведаю пра тых сваякоў, якія ваявалі, мне расказвалі ў маёй сям і. І гэтага дастаткова, каб памятаць пра 9 Мая.



**Дар'я Кучук, у дэкрэтным адпачынку:**
– Як увогуле можна забыць такую дату? Я лічу, што пра яе дастаткова гаворыцца і ў падручніках, і па тэлебачанні.



**Любоў Дубаневіч, навучэнка:**
– А мы і не забываем. У Вілейцы заўсёды прыгожа на гэтае свята. Па ўсім горадзе – сцягі, і канцэрт заўсёды.



**Аляксандр Рамановіч, прараб:**
– Кнігі правільныя трэба чытаць пра вайну. І гісторыю вучыць.



**Надзея Ціхановіч, вучаніца:**
– Трэба віншаваць ветэранаў, дапамагаць ім не толькі ў Дзень Перамогі, а заўсёды. Мы так і робім у школе.



**Любоў Новаш, пенсіянерка:**
– Трэба больш размаўляць з тымі, хто можа яшчэ нешта расказаць. Толькі часам мы пра гэта ўспамінаем позна.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дыярамы для музея Вялікай Айчыннай стварае наш зямляк

ВІЛЕЙКА

**Вось схіліўся над сваёй зброяй кулямётчык. А вось танкіст з запыленым тварам вылазіць з люка.**



Фота зроблена Юрыем ГЕРАСІМОВІЧАМ.

Шэрых "салдацікаў" і вайсковую тэхніку мастак расфарбоўвае сам.

Шмат яшчэ вайсковых эпізодаў, увасобленых у пластык, могуць бачыць наведнікі музея Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску. Якія адносіны маюць гэтыя дыярамы ў сталічным музеі да нашага рэгіёна?

Справа ў тым, што стварае іх выхадзец з Вілейшчыны мастак аддзела выстаў **Юры Герасімовіч**.

Чатыры гады таму ён пераехаў на радзіму бацькоў, у Беларусь, з Вільні. Пытаюся, чаму раптам з'явілася жаданне пакінуць Літву?

– Як вайсковец выйшаў на пенсію. У Беларусь пераехала дачка **Ксенія**. Яна сур'ёзна займаецца тут музыкай. Вось і я вырашаў пераехаць на радзіму бацькоў, – распавядае мастак.

20 гадоў, ад 1973 да 1993, аддаў службе ў паветрана-дэсантных войсках. Быў начальнікам клуба вайсковай часці і дырэктарам музея баявой славы. Заняткі мастацтвам сумяшчаў з работай вайскоўца.

У Беларусі ж знайшлася праца, у якой аднолькава неабходнымі аказаліся і талент мастака, і веды вайскоўца. Ужо некалькі год Юры Уладзіміравіч працуе ў музеі Вялікай Айчыннай вайны.

### З Вілейшчынай звязаныя ўспаміны пра дзяцінства і каханне

Карані мастака Юрыя Герасімовіча з Вілейшчыны. Маці і бацька Юрыя Уладзіміравіча з Крывога Сяла.

З Вілейшчынай звязаныя і ўспаміны дзяцінства, і каханне. З будучай жонкай **Раісай** з вёскі Качанкі мастак пазнаёміўся на вясковых танцах, калі гасцяваў у бабулі.

Маляванне вабіла хлопца з дзяцінства. Хоць у сям'і прафесійна ніхто не маляваў, аднак у бацькоў здольнасці былі.

Мама, успамінае мастак, прыгожа малявала кветкі. А вось у бацькі лепш атрымоўваліся коні. Праўда, ні часу, ні



Фота зроблена Юрыем ГЕРАСІМОВІЧАМ.

Мастак і вайсковец Юры Герасімовіч.

магчымасці развіваць гэтыя таленты не было.

У Вільні будучы мастак скончыў чатырохгадовую дзіцячую мастацкую школу. Пасля была служба ў войску.

Здавалася б, не да жывапісу салдату тэрміновай службы, але... І тут мастацкія здольнасці прыдаліся: прыйшлося ўдзельнічаць у стварэнні нагляднай агітацыі.

Адчуваючы, што заняткі маляваннем прыносяць задавальненне, Юры паступіў у дзяржаўны мастацкі інстытут у Літве. Тут вучыўся мастацкаму афармленню, графіцы, кераміцы, скульптуры і манументальнаму жывапісу.

### Вайна, увасобленая ў пластык

Дыпломнай працай маладога мастака стала дыярама "Штурм Рэйхстага" плошчай 28 квадратных метраў. Каб перадаць да драбніц гістарычна важную падзею, Юры Уладзіміравіч ездзіў у камандзіроўкі, разглядаў іншыя дыярамы, шмат працаваў з архівамі . Вынік задаволіў майстра. Адчуванне было такое, быццам сам знаходзішся ў баі, кажа мастак.

"Штурм Рэйхстага", па словах мастака, – адна з дзвюх прац, якія пакінулі глыбокі след у яго душы і творчасці. Другая дыярама – "Дэсант у наступленні" плошчай 45 квадратных метраў.

Калі стваралі экспазіцыю ў новым будынку музея Вялікай Айчыннай вайны, Юры Герасімовіч прымаў удзел у мантажы дыярам "Абарона Мінска 25-28 чэрвеня 1941 года" і "Мінскі кацёл". Ён афармляў залу "Нашчадкі Вялікай Перамогі" і стварыў інсталяцыю "Партызанская зенітка".

### Нешта скласці, нешта разламаць: як мастак "гуляе ў салдацікаў"

Для стварэння дыярам мастак набывае спецыяльныя наборы дэталяў. У вялікіх каробках іх можа быць да 400. Тут і маленькія салдацікі, і танкі, і зброя. Усе яны пластыкавыя, непрыглядная шэрага колеру.

Тэхніку і салдат трэба расфарбаваць, кожнаму намаляваць правільную форму, усё расставіць у патрэбных месцах. Мадэлі варта крыху "састарыць", "запыліць". Нешта скласці, а нешта і наадварот разламаць. Напрыклад, калі трэба паказаць пабітую баявую машыну.

Каб гістарычна правільна паказаць нейкую падзею ваеннага часу, Юры Уладзіміравіч карыстаецца матэрыяламі навуковых супрацоўнікаў музея, а таксама ўласным прафесійным досведам. Вайсковай тактыкай ён захапляўся заўсёды.

У планах мастака – дыярама "Абарона Магілёва" памерам паўтара на два метры.

Ці не закінуў мой субяседнік жывапіс, займаючыся стварэннем баёў з пластыку. Не, – упэўнена адказвае ён.

Па-ранейшаму малюе партрэты, нацюрморты. А на пейзажах часта паказаная маляўнічая прырода роднай Вілейшчыны.

Працы неаднойчы выстаўляліся, у тым ліку ў Вілейцы і ў Маладзечне.

### Дзед з Крывога Сяла загінуў у Польшчы пад Ольштынам

25 студзеня 1945 года на вайну з Крывога Сяла пайшоў дзед Юрыя Герасімовіча **Васіль Сільвановіч**. Дамоў ён не вярнуўся.

– Яшчэ ў Вільні я па сваіх каналах даведаўся, што дзед загінуў і пахаваны пад Ольштынам, у Польшчы, – распавядае мастак пра тое, як вайна закранула яго сям'ю. – Хацелася, канешне, пабачыць, дзе ён пахаваны. Але да гэтага часу не атрымалася.

Быў на вайне і дзядзька Юрыя Герасімовіча **Анатоль Герасімовіч**. Ён пасля вайны вярнуўся і жыў ў Крывым Сяле, меў баявыя ўзнагароды.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

# “Заўтра табе на вайну”

ВІЛЕЙКА

**– Валодзя, скажы маме, каб коржыкі ў дарогу пякла. Заўтра табе на вайну.**

Гэтыя словы старшыні калгаса **Піліпа Іванавіча Бялько** 18-гадовы Валодзя Ігнатовіч з вёскі Радкоў на Гомельшчыне запомніў на ўсё жыццё.

Вечарам 11 ліпеня 1941 года **Мар’я Сямёнаўна**, матка Уладзіміра, пякла коржыкі. Тыдзень таму яны адправілі на фронт галаву сямейства **Якава Хведаравіча**. Сёння торбачку рыхтавалі старэйшаму з трох сыноў. Пад нагамі круціўся малы **Іванька**, на двары нешта майстраваў сярэдні, **Васіль**.

Валодзя ўвесну працаваў, накіраваны сваім калгасам, на будаўніцтве вайсковага аэрадрома ў Бабровічах пад Калінкавічамі.

– Аднаго дня над намі нізка-нізка, – Уладзімір Якаўлевіч працягвае рукой злева направа, нібыта паказваючы вышыню палёту, – праляцелі нямецкія самалёты. Мо, фатаграфавалі, мо, што іншае… Толькі што аб’явілі: пачалася вайна. Ніхто нічога нам, калгаснікам, не скамандаваў. Начальства ўсё разбеглася – як і не было яго. Мы разышліся-раз’ехаліся на падводах па дамах.

Вечарамі малады калгаснік Ігнатовіч дзяжурыў на даверанам яму участку: паўднёвым канцы Радкова. Час ваенны. Трывожны. Раптам якія незнаёмцы з’явяцца. Трэба паведамляць ці старшыні калгаса, ці ў сельсавет у Валосавічы.

Але было спакойна. Толькі родная вёска сцішана чакала надобрых перамен, адпраўляючы спачатку старэйшых мужчын, а пасля і маладзейшых на невядомую яшчэ вайну. У адзін з вечароў загад збіраць дарожную торбу атрымаў і Валодзя Ігнатовіч разам з сямю іншымі маладымі аднавяскоўцамі. З васьмярых вярнуліся дадому чацвёра.

**– Я прайшоў усю вайну. Ад сорак першага да сорак пятага. Ваяваў у акопах са сваім кулямётам Дзегцярова. Адбіваў нямецкія атакі. Размініраваў палі. А ні куля, ні асколак мяне не закранулі, толькі аднойчы прабіла навылет мой шынель,**



Фота забяспечанае Уладзімірам ІГНАТОВІЧАМ.

**З загада па 67-м гвардзейскім стралковым палку ад 30 сакавіка 1945 года. “Ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета Саюза ССР узнагароджваю медалём “За адвагу” … 5. Стралка 1-га стралковага батальёна гвардыі чырвонаармейца Ігнатовіча Уладзіміра Якаўлевіча за тое, што ён у наступальным баі 28.03.1945 у раёне населенага пункту Дзінары Салдускага павета Латвійскай ССР пры адбіцці контратакі праціўніка знішчыў са свайго карабіна двух нямецкіх салдат”.**

– расказвае 94-гадовы ветэран, які жыве цяпер у Вілейцы ў сваёй дачкі.

– Можа таму, што калі я ішоў на вайну, мне ўслед суседка цётка **Уліта** шаптала замову. Мой бацька загінуў пад Смаленскам. Я застаўся. Пазней мне мама казала, што Уліта ў яе пыталася ў ліхія дні: “Па кім Мар’ічка плачаш, па Якаву?” – “Не, па Валодзю”. – “То не плач. Калі яны пайшлі, я глядзела ім услед. І мне так стала шкада твайго Валодзьку, ён жа самы маленькі з усіх, з-за рукзака не відно, то я лячыла і лячыла яго! Аж пакуль вочы бачылі. Вернецца Валодзя”.



Фота забяспечанае Уладзімірам ІГНАТОВІЧАМ.

**Уладзімір Якаўлевіч Ігнатовіч, які праз пяць з невялікім гадоў цвёрда наважаны сустрэць сваё 100-годдзе, жыве цяпер у Вілейцы ў сям’і дачкі. З вялікай копіі армейскай фатаграфіі над яго ложкам на нас глядзяць маладыя і не зусім байцы і афіцэры. І гвардыі сяржант у адстаўцы Ігнатовіч цвёрда пералічвае: “У верхнім радзе Рашынскі, Сярогін, Унукаў, Ігнатовіч, Эрмель. Ніжэй Плашкін, Марозаў, Максімаў, Вадавозаў…”. Арыгінал фота ляжыць ва Уладзіміра Якаўлевіча сярод самых важных папер, якія ён штодня дастае і перакладае, успамінаючы сваё няпростае жыццё працягласцю амаль у стагоддзе.**

Уладзімір Якаўлевіч сціхае і перапытвае ўжо каторы раз. Ці то ў сумоўцаў, ці сам у сябе, сваёй памяці:

– А мо, і праўда, яна мяне так налячыла, што жывы вярнуўся?

Ужо ў 1946-м з медалём “За адвагу” на сваёй гімнасцёрцы гвардыі сяржант Уладзімір Ігнатовіч адчыніў дзверы бацькоўскай хаты, якая стаяла бы сірата ў амаль цалкам спаленым Радкове:

– Не пазнаеце?

І пачуўшы ў адказ нягучнае “Не”, прашаптаў сасмяглымі губамі:

– Гэта ж я, мама, ваш Валодзя.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Збег з палону, пазнаўшы вясковую ліпу

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра тое, як дрэва ў роднай вёсцы, магчыма, выратавала жыццё франтавіку, расказаў выхадзец з яго вёскі Мікалай Рак.**

Гэту гісторыю наш суразмоўца пачуў яшчэ даўно, калі яе герой, франтавік **Уладзімір Гулецкі**, яшчэ быў жывы. Мікалай і падзабыў расказанае, але нядаўна ўбачыў у гістарычным часопісе фота, як немцы перавозілі палонных (гл. фота на старонцы), і падумаў, можа на гэтым здымку стаіць той самы Валодзя.

Уладзімір Гулецкі жыў у вёсцы Запалякі каля станцыі Пруды ў Маладзечанскім раёне. У 1940 годзе яго прызвалі ў армію маладым хлопцам.

Летам 1941 года іх захапілі недзе пад Смаленшчынай. Гналі пешшу кіламетраў пад 200, замораных, галодных. Прыгналі на вялікую станцыю, загрузілі ў вугляркі і павезлі. Паміж вагонамі на дошках сядзелі немцы са зброяй. Як толькі нехта спрабаваў вылезці – адразу стралялі. Таму ўсе ціха тоўпіліся ў вагоне.



Фота з Федэральнага архіва Германіі.

**Здымак зроблены 21 верасня 1941 года. Савецкія ваеннапалонныя ў грузавым вагоне.**

Уладзімір прыгадваў свайму аднавяскоўцу, што пазнаў, як праязджалі Мінск. А пазнаў як – пачуў беларускую гаворку, убачыць жа нічога не маглі. Ехалі стоячы, а вагон быў вышэй за чалавека. Пазней прыкінуў, што недзе ўжо і Маладзечна праехаў.

Немцы везлі грузы днём, таму што ад Маладзечна да Вільні ў 41 годзе была аднапутка. А палонных везлі ноччу.

– І вось стаіць у вагоне, едзе і бачыць, як па небе плыве з дзяцінства знаёмая матулечкава ліпа, – распавядае Мікалай. – 200 метраў – і бацькаў дом. Ён як стаяў у гэтым вагоне, не піўшы не еўшы амаль тыдзень, і толькі раз, не помнячы, як адштурхнуўся, так і пакаціўся па адкосе, і ляснуўся ў балота. Жыць захочаш – і не так падскочыш. Наглядчык-немец, пэўна, сядзеў на дошцы, захутаўшыся, і не заўважыў пабегу. А ў 41 годзе чыгунка яшчэ не ахоўвалася.

Каля чыгункі была рака Дудкавіца, а каля яе – каменны мост. Калі цягнік прайшоў, Уладзімір пайшоў проста па цёплай вадзе, бо баяўся ночу згубіцца. Хутка зарыентаваўся, і праз паўгадзіны зайшоў да бацькі ў хату. Як жа бацькі абрадаваліся, можна толькі здагадвацца!



Фота забяспечанае Мікалаем РАКАМ.

**Тая ліпа ў Запаляках, якую пазнаў Уладзімір Гулецкі. Фота зробленае прыкладна ў 1968-1970-м годзе. На здымку відаць, што ў двары стаіць дрэва, якое звалі “матулечкава ліпа”. Недзе ў метрах 150 ляжыць чыгунка.**

Уладзімір пасля вярнуўся на фронт, але ўжо быў сувязістам. Расказваў ён Мікалаю і іншую ваенную гісторыю. У 1944 годзе ў Польшчы на Мазоўшчы, дзе балоцістыя мясцы, яны цягнулі сувязь. Прыйшла кухня.

– Кажа, набраў кацялок кашы, сеў на купіну і ем, – прыгадвае аповед аднавяскоўца спадар Рак. – Падымаю галаву – і бачу, што проста на мяне ляціць снарад. На вялікай хуткасці яго і не заўважыш, але калі траекторыя заканчваецца, то ўбачыць можаш. Кажа, падняў кацялок, адкаціўся, і чую толькі “хлоп” літаральна пад ім, пад купінай дыміцца дзірка. Снарад не ўзарваўся.

Пасля вайны Уладзімір Гулецкі працаваў сувязістам. Памёр гадоў пяць таму. Адзін яго сын памёр, а другі жыве ў Заслаўчах.

**Запісала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Калі мужчыны даведваліся, што буд пацiскалі руку, жанчыны дзівіліся та

МАЛАДЗЕЧНА

**Для многіх мужчын цяжарнасць жонкі – гэта стрэс, а калі справа даходзіць да саміх родаў – моцная палова чалавецтва ледзьве не губляе прытомнасць і не ведае, што рабіць. Сям'я Аляксандра і Дар'і Снапко поўная процілегласць распаўсюджаным стэрэатыпам.**



Доўгі час сям'і гаварылі, што ў іх будзе сын. Пара накупіла адзення сіняга колеру, але наколькі былі здзіўленыя, калі на адным з абследаванняў іх павіншавалі з дачкой.

Але пра ўсё па парадку...

## Былі побач і не бачылі адзін аднаго

Як адзначаюць маладыя людзі, яны ўсё жыццё былі разам: жылі ў суседскіх дварах, вучыліся ў адной школе, сябравалі з аднымі і тымі ж людзьмі, аднак не былі знаёмыя. Але аднойчы Аляксандр заўважыў Дашу ў кампаніі сяброў – дзяўчына адразу запала ў душу і сэрца. Юнак рашыўся і напісаў паведамленне ў адной з сацсетак. Пачаў з прывітання і пытання пра справы. Ад Дашы адразу пасыпаліся пытанні: "Хто вы?", "Я вас першы раз бачу".

Спачатку маладыя людзі перапісваліся, пасля вырашылі сустрэцца. Доўгі час бачыліся толькі па выхадных: Аляксандр вучыўся ў інстытуце ў Мінску, Даша была ў Маладзечне.

– Я першы час прыглядалася да Сашы, – адзначае жанчына. – Хацелася бачыць побач з сабой чалавека, на якога магла абаперціся ў любой жыццёвай сітуацыі. Уяўляла партнёра статным, практычным і, канешне, адукаваным. Саша адпавядаў усім гэтым патрабаванням і нават звыш. Таму, калі атрымала прапанову рукі і сэрца, адразу адказала "так". Адчувала, што гэта мой чалавек, што з ім хачу раздзяліць жыццё.

## Зрабіў прапанову ў Парыжы

Прапанову хлопец вырашыў зрабіць, калі Дашы споўнілася 18 гадоў, рыхтаваўся да гэтага грунтоўна.

– Ведаю, што гэты момант вельмі важны для любой дзяўчыны, – адзначае Аляксандр. – Мне хацелася, каб гэта падзея была яскравай у жыцці Дашы. Рабіў незвычайна, бо хацеў паказаць: сказаўшы "так", Даша ніколі не расчаруецца ўва мне, не пашкадуе пра сваё рашэнне. Я буду заўсёды здзіўляць, падтрымліваць, аддам усяго сябе, толькі б яна была шчаслівая.

Прапанову зрабіў у Парыжы. Загадзя дамовіўся з фатографам, замовіў пярсцёнак з гранатам, каменем, які сімвалізуе любоў, вернасць і надзейнасць.

## Пра сямейнае шчасце

Пара запэўнівае, калі вы хочаце будаваць сумеснае жыццё, варта прыслухоўвацца да сэрца, а ні ў якім разе не да гараскопаў і вешчуноў.

– Усе гараскопы, якія нам падсоўвалі, – расказвае сям'я Снапко, – сцвярджалі, што ракі несумяшчальныя, што без канфліктаў не абысціся. Мы ўсміхаліся і рабілі па-свойму. Ужо восем гадоў, як мы разам, і ні разу не было такога, што хацелася бразнуць дзвярамі і пайсці. Жыццё не вартае таго, каб сварыцца і высвятляць адносіны. Заўсёды можна прыйсці да паразумення.

Як лічыць Даша, самае галоўнае – стварыць такую абстаноўку, каб мужчыну хацелася вяртацца дамоў, і ў любой сітуацыі заставацца прывабнай – мужчыны любяць вачамі. Мужчына ж павінны быць такім, каб жанчына заўсёды адчувала сябе абароненай.

Непаразуменні ў сям'і Снапко ўзнікалі толькі праз працу.

– Саша многа працуе, і я раней крыўдзілася, – узгадвае Даша. – Аднак з часам пераасэнсавала сітуацыю – ён жа стараецца для нас, нашай будучыні. Таму паспакайнела. Калі ж адчуваю, што мне не хапае мужа, прашу, каб хоць адзін дзень мы пабылі сам-насам. Ён і не супраціўляецца, пакідае ўсе справы, адключае тэлефон, і мы застаёмся, нібы адны на планеце. Гэта добра, калі людзі ўмеюць не змешваць сям'ю і працу ў адзін клубок.

## Хацелі, каб дзіця нарадзілася ў жніўні

Сям'я Снапко плануе будучыню наперад, таму спачатку вырашылі стаць на ногі, а ўжо потым рыхтавацца да нараджэння дзіцяці: адна справа нарадзіць, іншая – забяспечыць добрыя ўмовы.

Кватэру пара атрымала ад бацькоў на вяселле, зрабілі ў ёй рамонт, набылі машыну, завялі двух сабак – шпіцаў і пачалі планаваць цяжарнасць. Будучыя бацькі вельмі хацелі, каб дзіця з'явілася на свет у жніўні: у Дашы дзень нараджэння ў чэрвені, у Сашы – у ліпені, не хапала толькі аднаго летняга месяца.

> **– Спачатку пайшлі ў радзільню ў Маладзечна, – дзеліцца адчуваннямі Даша. – Спыталіся пра тое, як нам падрыхтавацца да цяжарнасці. Аднак сутыкнуліся са сцяной непаразумення: "А вы хаця б спрабавалі зацяжараць? Паспрабуйце, а тады прыходзьце". Пытанне ж было не ў тым, каб спрабаваць, а ў тым, каб загадзя падрыхтавацца, каб цяжарнасць праходзіла лягчэй, каб дзіця было здаровае.**

Таму паехалі ў Мінск у рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр "Маці і дзіця". Мяне агледзеў спецыяліст, выпісаў вітаміны, сказаў, што праз тры месяцы можна спрабаваць зацяжараць.

У маладой сям'і атрымалася.

Аляксандр заўважыў перамену ў жонцы, аднак ад усіх пытанняў наконт цяжарнасці жанчына адмахвалася, вырашыла зрабіць своеасаблівы падарунак на Новы год. У каробку, абгорнутую прыгожай паперай, паклала паштоўку з малюнкам бусла і надпісам "Тата, я ўжо вылецела", ружовыя і сінія пінеткі і тэст на цяжарнасць.

– Перад тым, як адкрыць падарунак, казаў, што там тэст на цяжарнасць, – дзеліцца мужчына. – Так і аказалася. Аднак калі дакрануўся да гэтых рэчаў, адчуў сябе неймаверна шчаслівым. Радасці дадало і тое, што падарунак атрымаў у прысутнасці сваякоў, якія адразу ж пачалі віншаваць.

## "Ты адна нараджаць не будзеш!"

Як прызнаецца Аляксандр, ён – чалавек, які прывык трымаць любую сітуацыю пад кантролем, уплываць на яе. Таму адразу ж сказаў сваё цвёрдае мужчынскае слова: "Ты адна нараджаць не пойдзеш! Толькі разам. Я хачу бачыць нараджэнне нашага дзіцяці".

– Калі б нешта пайшло не так, пастараўся б паўплываць на сітуацыю, зрабіць усё, што ў маіх сілах, – адзначае мужчына. – Сышліся на тым, што партнёрскія роды – гэта для нас.

Многія мужчыны, як даведваліся пра такое рашэнне, паціскалі Аляксандру руку: "Ну, ты мужык!" А вось многія жанчыны не разумелі такога кроку, страшылі тым, што, як пабачыць гэты працэс, разлюбіць жонку, перастане цягнуць да яе.

– Мяне вельмі здзіўлялі такія словы, – узрушаны Аляксандр. – Чаму я павінны разлюбіць жанчыну, якую кахаю, якая падарыла мне доўгачаканае дзіця. Наадварот, цяпер з упэўненасцю магу сказаць, што партнёрскія роды яднаюць, ты перажываеш неверагодныя адчуванні.

## Правяралі, нібы збіралі ў космас

Усю цяжарнасць Дар'ю назіралі ў цэнтры, грунтоўнае абследаванне прайшоў і Аляксандр. Як жартавала Дар'я: "Ці не ў касманаўты цябе рыхтуюць, дарагі?"

Доўгі час маладым гаварылі, што ў іх будзе сын. Шчаслівыя бацькі

# ...у разам з жонкай на родах, – ...акому жаданню



Сям'я Снапко вырашыла, што хочуць падчас родаў быць разам.



Прапанову Аляксандр вырашыў зрабіць у Парыжы, рыхтаваўся да гэтай падзеі грунтоўна.

накупілі адзенне сіняга колеру, але наколькі былі здзіўленыя, калі на адным з абследаванняў іх павіншавалі з дачкой. Гэта ніяк не засмуціла, зразумелі, што трэба было набываць універсальныя па колеры рэчы.

Тое ж самае тычылася і імёнаў, у хлапечых спыніліся паміж Львом і Феліксам.

– А вось з жаночымі ўзніклі праблемы, – расказвае Дар'я. – Хацелася, каб імя было незвычайнае, аднак, у сваю чаргу, каб гучала, стасавалася з іменем па бацьку. Выбіралі паміж Арыянай, Сабінай і Аўгусцінай. Але нешта было не так. Апошняе імя адкінулі, ведалі, што будуць пытанні: "Гэта таму, што ў аўгусце нарадзілася?"

І вось застаецца тыдзень да родаў, да мяне ў сябры дадаецца дзяўчына з імем Алівія. І адразу нешта ёкнула ў сэрцы, ці не лепшае імя для дачкі. Сказала мужу – і ўбачыла, як і ў яго загарэліся вочы. Бацькі таксама падтрымалі. Была неверагодна ўдзячная гэтай дзяўчыне.

### Не хоча? Не прымушайце мужа ісці на роды

Абавязковае патрабаванне для партнёрскіх родаў у навукова-практычным цэнтры – прайсці курсы. Падчас іх будучыя бацькі даведваюцца, як зразумець, што пачынаюцца роды, якія этапы праходзяць, як трэба карміць грудзьмі і іншае.

– Заняткі накіраваныя і на тое, каб псіхалагічна падрыхтаваць да родаў, супакоіць, што ўсё пройдзе добра, – адзначае Даша. – Важна было пачуць гэтыя словы менавіта ад медыкаў.

Многім татам расплюшчылі вочы, што роды – гэта не 15 мінут, як у серыялах, яны могуць доўжыцца да 11 гадзін.

> – Для многіх жанчын важнымі былі словы, што не трэба прымушаць свайго мужчыну ісці на роды, – узгадвае заняткі Даша. – Ён павінны сам адчуць патрэбу, захацець гэтага, прыняць самастойнае рашэнне. Толькі гэты крок з'ядНае вашу сям'ю, а не наадварот.

### Дакладна сказалі, у які час народзіць

Аляксандр хваляваўся, што жонка можа нарадзіць раней тэрміну, пытаўся ў дактароў, ці магчыма, каб яна засталася ў бальніцы на захаванні. Медыкі ўпэўнілі, што ў гэтым няма неабходнасці.

– Спецыяліст агледзеў Дашу і сказаў: "Прыязджайце на наступным тыдні ў суботу ў дзевяць раніцы, будзем нараджаць", – уражана расказвае Аляксандр. – Я тады і паверыць не мог, што з такой дакладнасцю можна спрагназаваць роды. Патрапілі ў дзясятачку!

> **У суботу, 13 жніўня, сям'я прыехала ў цэнтр, жанчыну агледзелі і спакойна сказалі: "Вы нараджаеце, ідзіце пераапранацца!"**

Спачатку муж і жонка знаходзіліся ў перадродавым пакоі, абсталяваным разнастайнымі прыстасаваннямі, якія павінны былі аблегчыць роды, напрыклад, фітбол, душавая кабінка.

– Болі былі настолькі моцнымі, што хацелася плакаць, нават забылася, як мяне вучылі правільна дыхаць падчас родаў, – узгадвае Даша. – Саша таксама хваляваўся. Калі бачыў мой боль, прасіў дактароў рабіць усё магчымае, каб мне стала лягчэй. Нагадваў, як правільна дыхаць, хваліў, што я малайчынка, трымаў за руку. На некалькі хвілін дазвалялі заходзіць у душ – гэта аблягчала боль. Але сіл не было да яго дабрацца, Саша насіў на руках. Вельмі хацелася піць – не дазвалялі, муж вадой мачыў вусны. І цяпер, калі вяртаюся ў мінулае, думаю, што без майго Сашы не змагла б так, дзіўлюся, на што можа бясконца любячае сэрца. З ім мне было не страшна і амаль не балюча.

– Я прывык уплываць на сітуацыю, – дзеліцца перажываннямі Аляксандр. – А тут, нібы рукі завязалі, не мог пераняць боль Дашы на сябе, падтрымліваў словамі, рабіў, што мог.

### У радзільнай паставілі за спіны дактароў

Пасля Дашу перавезлі ў радзільную залу. Як адзначаюць маладыя, калі трапляеш туды, адчуваеш сябе, як на касмічным караблі, настолькі многа апаратуры. Гэта адразу адцягвае ўвагу.

У радзільнай Аляксандра адразу паставілі за спінамі дактароў, маўляў, каб не спалохаўся, аднак мужчына не з нясмелага дзясятку, стаў бліжэй да жонкі.

– Нічога агіднага я не ўбачыў, – дзеліцца мужчына. – Наадварот, ахаплівалі такія пачуцці, якіх раней нават і не ведаў: змешвалася і захапленне, і шчасце, і радасць, і хваляванне… Нават і цяпер складана перадаць усю гаму. Слёзы цякуць па вачах, калі чуеш першы крык свайго дзіцяці, разам з жонкай перажываеш першыя хвіліны шчасця.

Падводзячы выснову, сям'я сышлася на меркаванні, што партнёрскія роды дапамагаюць жанчыне адчуваць, што яна не адна, што побач блізкі чалавек.

– Для мяне было важна быць упэўненым, што я ў гэтай сітуацыі зрабіў усё магчымае для сваёй сям'і, – адзначае Аляксандр. – А не проста пахваліцца перад сябрамі, што стаў бацькам. Партнёрскія роды дапамаглі адчуць, што я сапраўдны бацька.

Пасля нараджэння ўнучкі, бацькі Дар'і прызналіся, што 15 гадоў таму бацька прысутнічаў пры нараджэнні яе брата.

### Разгубілася, калі прынеслі дзіця

Як расказвае маладая мама, як толькі прынеслі дзіця, разгубілася, што рабіць, як трымаць дзіця. Жанчына, якая была з Дашай у адной палаце, дала добрую параду: "Толькі ты, як ніхто іншы, зразумееш сваё дзіця". Менавіта гэтыя словы навучылі Дашу прымаць рашэнні.

Пяць дзён, якія Даша была ў цэнтры, дапамаглі ўсвядоміць, што значыць быць маці, як даглядаць за дзіцем.

Малады бацька ў гэты час рыхтаваўся да прыезду жонкі і дачкі: навёў чысціні ў доме, закупкі прадуктаў. А таксама святочнай сустрэчы: знайшоў спецыялістаў, якія зрабілі надпіс з шарыкаў "З днём нараджэння, Алівія!" і выяву бусла, аздобілі пакой шарыкамі. Маладую маці чакаў прыемны сюрпрыз – аўтамабіль.

Пасля нараджэння дзіцяці Аляксандр, каб падтрымаць жонку, змяніў харчаванне. Цяпер у рацыёне былі толькі тушаныя, вараныя і прадукты на пары.

– Нічога складанага ў гэтым няма, – адзначае мужчына. – Наадварот, стаў лепш спаць, кашмары не сняцца, няма цяжкасці ў страўніку. Карацей, усё толькі на карысць. А галоўнае – жонцы не крыўдна.

Частку клопатаў па доглядзе за дачкой Аляксандр таксама ўзяў на сябе. Даша ноччу корміць Алівію, ён носіць на руках і ўкладае спаць. Раніцай, да таго, як дачка і жонка прачнуцца, малады бацька падрыхтоўвае сняданак. Галоўны прынцып сям'і – дапамагаць адзін аднаму і пераадольваць усё разам, тады і сям'я будзе моцнай.

### Да другога дзіцяці – таксама грунтоўна

Мара пра другое дзіця лунае ў паветры, аднак і да гэтага кроку пара хоча падрыхтавацца грунтоўна. У жніўні сям'я дабудоўвае чатырохпакаёвую кватэру з вялікім метражом, зробяць рамонт, абжывуцца, можна і пра дзіця падумаць.

– Таксама Дашы патрэбны час на тое, каб арганізм аднавіўся пасля родаў, – падводзіць выснову Аляксандр. – Цяпер я шчаслівы чалавек, у мяне ёсць дачка і жонка. Будзе другое дзіця – падвоіцца і шчасце. Аднак не пайду на тое, каб здароўе маёй жонкі падкасілася. Тым больш хочацца запомніць кожнае імгненне, калі дачушка маленькая, таму не варта спяшацца.

Фота забяспечанае сям'ёй Снапко.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# Маладзечанскі баксёр пра перамогу над Дэрыкам Мехменам

## "Крытыкаваць на канапе – проста, а паспрабуйце быць незаціснутым на рынгу"

МАЛАДЗЕЧНА

**У пятніцу, 28 красавіка, у Маскве адбыўся бой па тайскім боксе ў міжнародным турніры Fight Nights Global 64 паміж 32-гадовым маладзечанцам Аляксеем Кудзіным і 31-гадовым амерыканцам Дэрыкам Мехменам. Наш зямляк стаў пераможцам, аднак каментатары ў інтэрнэце не пагадзіліся з рашэннем суддзяў, маўляў, "Мехмен Кудзіна патрос".**




Бой паміж Аляксеем Кудзіным і Дэрыкам Мехменам адбыўся ў пятніцу, 28 красавіка, у Маскве ў спартыўным комплексе "ВТБ Лядовы палац".

Мы сустрэліся са спартсменам, каб даведацца, якім было спаборніцтва для яго, як рэагуе на абураныя воклічы.

– Кожны бой даецца вельмі цяжка, бо ты не ведаеш, як паводзе сябе сапернік, – расказвае Аляксей. – Большасць спартсменаў, з якімі сустракаюся на рынгу, маюць вялікі досвед, грунтоўна падрыхтаваныя. Амерыканцы – вельмі складаныя сапернікі, з еўрапейцамі лягчэй.

Нагадаем, што апошні бой у Аляксея быў у лістападзе, спартсмен рабіў амаль паўгадавы перапынак. Прычынай было тое, што нарадзілася другая дачка, не хацеў хваляваць жонку, Таццяну. Аднак трэніроўкі не спыніў.

### Сапернік цалкам змяніў звыклую тактыку

У лютым спартсмен даведаўся, што яго чакае бой з амерыканцам, былі два з паловай месяцы на падрыхтоўку. Пачалі з таго, што трэнерская каманда разам са спартсменам прагледзела відэа ранейшых баёў саперніка: глядзелі, як паводзіць сябе на рынгу, якой тактыкі прытрымліваецца.

– Звычайна Мехмен працуе ў стойцы, мала рухаецца па рынгу, – адзначае маладзечанец. – Аднак у баі ён змяніў тактыку, бо ведаў – у стойцы я маю перавагу, ён можа прапусціць удар. Дэрык імкнуўся сцягнуць мяне ў партэр, вёў актыўную барацьбу рукамі. З самага пачатку бою быў зададзены вельмі высокі тэмп. На маю думку, Дэрык праявіў сябе лепш, чым у іншых баях.

**Як адзначае Аляксей Кудзін, на гэты бой ён ішоў толькі з думкамі пра перамогу. Да гэтага ў яго была нічыя з Міхаілам Махнаткіным, у баі з Сяргеем Паўловічам маладзечанец саступіў.**

– Калі б у гэтым баі я не перамог, гэта была б для мяне кар'ерная яма, – расказвае Аляксей. – Таму толькі перамога. Калі б не атрымалася, не павесіў бы баксёрскія пальчаткі на цвік, наадварот, трэніраваўся б з большым напружаннем і аддачай. Перамога была патрэбная, каб сцвердзіцца самім перад сабой, даказаць сабе, што магу больш.

### Фанаты нанялі аўтобус, каб падтрымаць спартсмена

Падтрымлівалі спартсмена сябры, з Мінска ў Маскву прыехаў аўтобус фанатаў, многія маскоўскія сябры прыйшлі на бой. Жонка падтрымлівала ў думках, сама бай пераглядае, калі скончацца, каб хваляваннем не сурочыць перамогу.

Як адзначае спартсмен, бой забірае шмат сіл, таму пасля яго ў нейкім сэнсе адчуваеш апатыю.

– Канцоўка атрымалася нейкая змазаная, хаця сам бой прайшоў нядрэнна, – дае ацэнку Аляксей. – Цяпер тыдзень-другі адпачну і з новымі сіламі вазьмуся за працу.

Лепшым аднаўленнем пасля бою спартсмен лічыць папарыцца ў лазні, залячыць траўмы.

На каментары ў інтэрнэце адносна бою спартсмен глядзіць раўнадушна – заўсёды будуць незадаволеныя.

Многія "эксперты" нават стараліся даць параду спартсмену: "З перамогай! Аднак нейкі ты заціснуты, Аляксей, трэба вагу скінуць... неяк папрацаваць над гэтым".

– Крытыкаваць, лежачы на канапе, проста, а вось самому надзець пальчаткі і паспрабаваць свае сілы значна цяжэй, – тлумачыць Аляксей. – Заціснутасць была хутчэй псіхалагічная, бо не ведаеш, які будзе наступны крок саперніка, ад гэтага становішся вельмі сканцэнтраваным, зразумела, што і мышцы, цела напружаныя. Тым больш, што ў боксе многа статычнай работы, трэба рухацца, але асабліва па рынгу не паскачаш. Што датычыцца вагі, то ў міжсезонне важыў 112-113 кілаграмаў, да бою скінуў пяць кілаграмаў – вага была ў норме.

### З Маладзечна не планую з'язджаць

Пайшлі чуткі пра тое, што Аляксей Кудзін пераехаў у Мінск.

– Маладзечна – мой родны горад, які вельмі падабаецца, не планую з'язджаць адсюль, – зазначае маладзечанец. – На трэніроўкі езджу ў Мінск, Маскву, але заўсёды вяртаюся. У Маладзечне праблема з тым, каб знайсці партнёра цяжкай вагавой катэгорыі. Яны ёсць, аднак не таго ўзроўню, якога б хацелася. Калі б такія партнёры былі ў Маладзечне, нікуды і ездзіць не давялося б.

**Заканчваць кар'еру спартсмен пакуль не плануе. Калі баксёры лёгкай вагавой катэгорыі сыходзяць з рынгу да 30 гадоў, то баксёры цяжкай вагавой катэгорыі звычайна выступаюць да 37-38 гадоў. Аляксей плануе быць у спорце да 40 гадоў, галоўнае, каб менш было траўмаў.**

У трэнерскай рабоце маладзечанец пакуль сябе не бачыць, ды і на гэта не хапае часу – у самога трэніроўкі два разы на дзень. Хаця перыядычна Аляксей праводзіць паказальныя заняткі, майстар-класы.

8 чэрвеня спартсмена чакае чэмпіянат Еўропы ў Італіі, а 6 кастрычніка – турнір у Мінск-арэне, у Аляксея галоўны бой вечара.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Выкрутасы на ровары, альбо Модны спорт ВМХ

МАЛАДЗЕЧНА

**Адно з сучасных захапленняў моладзі – ВМХ. Даслоўна гэта абрэвіятура азначае "веласіпедны мотаэкстрым". Экстрэмальнае велаваджэнне ўпершыню з'явілася ў 70-х гадах XX стагоддзя ў Амерыцы, а з 2008 года ВМХ-рэйс лічыцца алімпійскім відам спорту.**

Прагулка – выдатны занятак, каб вырвацца з сусветнага павуціння пад назвай "Інтэрнэт". Ты шпацыруеш па "Брадвеі", у слухаўках гучыць любімая музыка, а ў галаве лунаюць думкі: як жа добра вакол, які ж прыгожы наш парк з дарожкамі, невялікімі вадаёмамі. Горад ажывае, калі на вуліцу выходзіць моладзь: гутараць, іграюць на гітары, спяваюць, танцуюць і не толькі.

Вы б толькі бачылі, якія "выкрутасы" на веласіпедах могуць вырабляць нашы юныя маладзечанцы! Скачкі, павароты і кулькі на "жалезным кані" прымушаюць мінакоў заміраць у захапленні.

Адным з яркіх прадстаўнікоў моладзевай культуры, якая мае назву ВМХ, з'яўляецца **Антон Каўбаска**, адзінаццацікласнік гімназіі №7 горада Маладзечна. Ён у "сядле" ўжо тры гады. Пачынаў з самых простых, а цяпер у яго арсенале больш за 100 трукаў, і іх становіцца ўсё больш. Не стаяць на месцы, а паступова рухацца наперад дапамагае прыклад каліфарнійскіх райдэраў Stevie Churchill, Brandon Begin, Dillon Lloyd, Chad Kerley і многіх іншых.

Сапраўдным асам Антон з'яўляецца ў такім кірунку, як street-riding. Для выканання трукаў ён выкарыстоўвае лаўкі, прыступкі, дахі, поручні і г.д. Каб бачыць прагрэс у катанні, дзяліцца досведам і захоўваць відэа на памяць, юнак завёў свой канал на YouTube.

Веласіпеды для гэтага віду спорту адрозніваюцца ад звычайных. У іх палегчаная і нізкая рама, невялікія колы, а руль можа паварочвацца больш чым на 360 градусаў. Адно з галоўных адрозненняў – геаметрыя, якая дазваляе размяркоўваць нагрузку.

– Многія пытаюцца, для чаго патрэбныя тыя ці іншыя прылады ў маім ровары. Да прыкладу, адмысловыя ўпоры для ног (пегі) мы выкарыстоўваем для выканання трукаў або для таго, каб слізгаць па паверхнях прадметаў, – тлумачыць Антон. – Некаторыя думаюць, што на ім нязручна перасоўвацца па вуліцах. Я скажу, што па горадзе на ім наадварот хутчэй, таму што дзе-небудзь можна скараціць, пераскочыўшы праз перашкоду, не трэба спыняцца перад бардзюрамі і г. д. На маім веласіпедзе няма тармазоў, але я ўжо прывык і цалкам кантралюю сітуацыю на дарозе.

Першым турнірам, у якім Антон прыняў удзел і адразу атрымаў перамогу, быў міжнародны праект Game Of BIKE Online. Арганізатары з Расіі выбралі чатырох удзельнікаў, і кожны па чарзе прыдумваў для сапернікаў трукі, якія яны павінны былі паўтарыць на працягу двух сутак.

Затым было яшчэ шмат дыстанцыйных конкурсаў, але больш за ўсё ўражанняў пакінуў ВМХ кантэст Little Belarussion Woodward у сувязі з адкрыццём летась скейт-парку ў Мінску.

– Рэальныя гледачы, іх падтрымка, абсталяваная пляцоўка, і толькі дзве спробы для манеўру – вось гэта было відовішча! Не чакаў, што займу першае месца ў сваёй катэгорыі, – успамінае Антон.

У родным горадзе ў юнака шмат аднадумцаў. Бо катанне – не толькі вучыць трукі, гэта і зносіны, і паездкі, і новыя знаёмствы. Юнакі імкнуцца катацца разам, дзяліцца досведам і мараць пра скейт-парк. А яшчэ іх усіх аб'ядноўвае здаровы лад жыцця, бо ВМХ – гэта спорт, які развівае фізічна і духоўна.

**Ангеліна ПЯТРОЎСКАЯ, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Усё мінецца, адна ... застанецца.
5. Задаць наганяй.
7. Аўтар цытаты: “Вайна закрывае ўсе далягляды”.
11. Жанр літаратуры, у якім ідэалізуецца побыт пастухоў і вясковае жыццё.
13. Што адначасова і падаўжаецца, і скарачаецца.
14. Старажытнае дэкаратыўнае пісьмо.
15. Помнік у гонар якой-небудзь падзеі ў выглядзе гранёнага, звужанага ўверсе слупа.
17. Калі спяшаюцца з працай на караблі.
18. Поўны круг вярчэння.
19. Карабель Артура Грэя.
22. Тысяча мільёнаў.
23. Каўпак для лямпы.
24. Вялікі камень, абломак горнай пароды.
25. Размеркаванне.
27. Чырвоны радок.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Аб чым абвяшчае жыхарка Гаваяў, закладваючы кветкі за правае вуха.
2. Бой, бітва.
4. Гук, характэрны для сабакі і некаторых іншых звяроў.
5. Зброя пчалы.
6. Раён Нью-Ёрка, чыя назва значыць “месца выпіўкі”.
8. Рызыкоўная, беспрынцыповая справа, распачатая ў разліку на выпадковы поспех.
9. Прыродная мінеральная фарба жоўтага ці чырвонага колеру.
10. Канікулы.
12. Страва з кавалкаў мяса ў соусе.
16. Самец дзікай свінні.
17. Наплечныя шнуры на мундзір у генералаў, афіцэраў генштаба і інш.
20. Яго корань падобны на маленькага чалавечка.
21. Асоба, якая карыстаецца абанементам.
23. Скульптура верхняй часткі чалавечага цела.
24. Прыстасаванне, на якое намотваюць пражу.
26. Сталіца гэтай краіны – Асуньсьён.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №17.

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 2. Шкода. 3. Вішнева. 4. Яхідна. 7. Марынін. 9. Опанцы. 11. Рона. 13. Кавун. 16. Фалафель. 17. Слон. 18. Мядзведзь. 19. Вілейка. 20. Парася. 21. Кіт. 24. Ядвіга.

ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Бурштын. 5. Тхор. 6. Горват. 7. Мулінэ. 8. Капішча. 10. Чарнагорыя. 12. Шамякін. 13. Куна. 14. Геральдыка. 15. Навалукомль. 19. Вітаўт. 20. Полацк. 22. Крыжадзюб. 23. Супрэматызм. 25. Бігас.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА МАЙ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Казка пра чырвоную стужачку**” (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*
7 мая – у 11:00

**Прысвячаецца Міжнароднаму дню абароны дзяцей і Сусветнаму дню бацькоў**
“**Кот у ботах**” (музычная казка), *Вольга Ліс*
31 мая – у 17:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Плачу наперад**” (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
10 мая – у 19:00

“**Навелы пра каханне**”. *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
18 мая – у 19:00

“**Вакзал на траіх**” (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
23 мая – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Прыгажуні**” (амерыканская камедыя), Айван Менчэл
25 мая – у 19:00

“**Дзядзечкаў сон**” (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*
30 мая – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*

Тэлефоны:
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by
Сайт: theatre-modt.by

УНП 00066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА МАЙ**

“**Тры парсючкі**” (музычная казка), *І.Сідарук*, бел.
7 мая – у 12:00

“**Прывітанне для мартышкі**” (камедыя ў 2-х дзеях), *Р.Осцер*, бел.
14 мая – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 50-56-96, 74-63-79, 74-63-91.**

УНП 600136804

## ГАРАСКОП 5-11 МАЯ



**АВЕН.** Вас адолее дзіўнае пачуццё нявызначанасці. Вам будзе незразумела, што вас чакае ў будучыні і як зрабіць правільны выбар. Гэта нявызначанасць, з аднаго боку, дае новыя шансы, з іншага – палохае. Слухайце сваё сэрца, яно падкажа, як вам паступіць у тым ці іншым выпадку.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы думаеце, што ведзяце сябе заўсёды справядліва і правільна ў адносінах да іншых людзей. Але гэта не так. Цяпер вакол вас могуць разгарнуцца розныя негатыўныя падзеі, гэта можна назваць кармай, спасцігнуць якую і выправіць памылкі – ваша галоўная задача.



**БЛІЗНЯТЫ.** Для вас гэтыя дні будуць вельмі ўдачныя, асабліва ва ўсіх сферах і справах, дзе трэба праяўляць актыўнасць і ўпартасць. Энергіі ў вас будзе больш чым дастаткова, і яна не будзе ісці ўпустую, а набудзе цалкам рэальную форму. Добра штонебудзь стварыць сваімі рукамі.



**РАК.** У вас з’явіцца здольнасць дастаткова моцна ўплываць на падзеі, якія адбываюцца вакол вас, і атрымоўваць з іх максімум карысці для сябе, не затрачваючы на гэта вельмі многа сіл. Гэтым варта скарыстацца з толкам. На душы ў вас спакой, справы спорацца, фінансавы стан спрыяльны.



**ЛЕЎ.** Сітуацыя можа скласціся для вас неадназначна. З аднаго боку, вы будзеце весці сябе як прыстойны сем’янін, клапаціцца пра іншых людзей. Але потым вамі завалодае халодны разлік, жаданне дасягнуць мэтаў без уліку чыйго б там ні было інтарэсу. Такая актыўнасць у справах можа вас пасварыць з многімі дзелавымі партнёрамі, а ўжо з блізкімі людзьмі і падаўна.



**ДЗЕВА.** Не ўзвальвайце на сябе шмат работы, не спрабуйце перарабіць усе справы, вырашыць пытанні, бо тады, акрамя фізічнай стомленасці, вы нічога не адчуеце. Навучыцеся размяркоўваць справы і атрымліваць асалоду ад жыцця.



**ШАЛІ.** Перад вамі можа паўстаць складаны выбар, розныя заманлівыя прапановы. І цяжка будзе вызначыць, што вам сапраўды трэба. Праявіце стрыманасць ва ўсіх жаданнях і дзеяннях, і тады выбар ваш будзе абгрунтаваны і правільны.



**СКАРПІЁН.** Эмоцыі пачнуць напаўняць ваша жыццё і ўплываць на погляды і патрэбнасці. Вам захочацца большай стабільнасці, як ніколі раней прачнецца жаданне кахаць і быць каханай, хаця раней вы маглі да гэтага адносіцца раўнадушна ці нават скептычна. У вас ёсць усе шансы пачаць паступова рэалізоўваць жаданні. Але для гэтага трэба прыкласці намаганні і запасціся цярпеннем, каб дачакацца станоўчага выніку.



**СТРАЛЕЦ.** Ваша ўвага будзе прыкаваная да пытанняў заробку, паляпшэння свайго фінансавага стану, і, вядома, да работы. Спрыяльны час для праходжання гутаркі ў пошуках новай работы, размовы з начальствам аб павышэнні ці прапанове сваіх ідэй. Магчымыя грашовыя паступленні.



**КАЗЯРОГ.** Цяпер можна адпачываць і назапашваць сілы. Адпачынак карысны для ўнутранага адзінства, што дае магчымасць шырэй глядзець на рэчы і атрымоўваць больш значныя вынікі. Калі вы хочаце зрушыць з мёртвай кропкі ваша жыццё, то трэба пачаць з сябе і штосьці змяніць. Разбярыцеся і рашуча адмоўцеся ад таго, што вам перашкаджае.



**ВАДАЛЕЙ.** Каб дасягнуць поспеху, вам неабходна знайсці прымірэнне са сваімі ўнутранымі сіламі. Калі ўнутры будзе разлад, то вы не зможаце прасоўвацца наперад. Добра ў гэты час заняцца самапазнаннем, і падыходзіць да гэтага трэба старанна, бо спрыяльны для гэтых мэт перыяд пройдзе ўпустую.



**РЫБЫ.** Хіба можна яшчэ чагосьці жадаць, калі і так усё добра, усё ёсць і ваша жыццё праходзіць у радасці. Усе дні вы будзеце як сыр у масле, але вам гэтага будзе мала. Вы станеце шукаць новыя прыгоды, крыніцы даходу, радасці і задавальнення, праяўляць актыўнасць. Усе вашы дзеянні будуць абарочвацца поспехам, што прынясе вам яшчэ больш задавальнення ад жыцця.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 8 | 6 | | | 7 | 5 | |
| | | | 4 | | | | | |
| | 5 | 3 | 7 | | 8 | 2 | | |
| | | | | | 6 | | | 3 |
| 1 | 7 | | | 8 | | | 9 | 2 |
| 3 | | | 2 | | | | | |
| | | 2 | 8 | | 4 | 1 | 7 | |
| | | | | | 2 | | | |
| | 8 | 9 | | | 7 | 6 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

**6 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +7 / +14 | | +5 / +17 | | +9 / +9 | | +2 / +10 | |
| | 749 | ↖ 4 | 742 | ↘ 2 | 740 | ↙ 4 | 740 | ↘ 4 |
| **Вільня** | +7 / +16 | | +7 / +17 | | +11 / +9 | | +4 / +11 | |
| | 756 | ← 3 | 750 | ↘ 5 | 748 | ← 5 | 748 | ↘ 5 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.23
Захад 20.55
Даўжыня дня 15.32

Усход 15.50
Захад 4.15
Квадра 2

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОРЬЯ

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -2,2 °С у 1999 годзе
Максімальная тэмпература +24,1 °С у 1993 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 22.5 мм у 2015 годзе
Паводле meteoinfo.by






## Чытайце праз тыдзень:

- **Мужчыну на інвалідным вазку часта можна сустрэць на вуліцы ў Ілы. Ён самастойна выязджае на вясковы рынак, набывае прадукты. Дзякуючы пандусам, можа заехаць на пошту, у школу і сельсавет. Пра тое, як жыве адзінокі вясковы інвалід, пра што марыць і чаму не хоча з'язджаць у сацыяльную ўстанову, чытайце ў наступным нумары.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Абітурыент на ўступным экзамене.
– Вы з Багдановічам знаёмыя?
– Не.
– З Купалам, з Коласам?
– Таксама не.
– Ну, можа, з Быкавым ці хоць з Караткевічам?
– Не.
– Да пабачэння!
Каля аўдыторыі яго пытаюць:
– Ну, як, прынялі?
– Не, тут толькі па блаце. А я, выходзіць, ні з кім не знаёмы…

***

У радзільні малады тата фатаграфуе свайго нованароджанага сына то з аднаго боку, то з другога. Медсястра яго пытаецца:
– Гэта ваша першае дзіця?
– Не, дзіця ўжо трэцяе, а вось фотаапарат – першы!

***

– Купіў дачу: домік і адну сотку зямлі.
– Дык там садзіць і араць няма дзе!
– Таму і купіў.

***

– Хачу машыну.
– Навошта яна табе.
– Бібікаць.



## О реализации имущества ООО "Спецрезервстрой"

**Организатор торгов** ООО "Спецрезервстрой"

**Продавец** ООО "Спецрезервстрой" (УНП 690695128)

**Форма проведения торгов:** Первые повторные торги в форме открытого аукциона

**Дата и место проведения торгов:** 19.05.2017 в 11.00 по адресу: г. Минск, ул. Сурикова, д.50.

**Сведения о предмете торгов:**

Лот №1: Капитальное строение, здание специализированное иного назначения (здание гаража) инв. №630/С-16786;

Лот № 2: Капитальное строение, здание специализированное для обработки древесины и производства изделий из дерева, включая мебель (столярный цех) инв. №630/С-16783;

Лот № 3: Капитальное строение, здание специализированное для обработки древесины и производства изделий из дерева, включая мебель (пилорама) инв. №630/С-1935.

**Начальная цена:**

Лот №1 –103554 белорусских рублей 00 копеек (без НДС);

Лот № 2 - 26928 белорусских рублей 00 копеек (без НДС);

Лот № 3 – 43969 белорусских рублей 00 копеек (без НДС).

**Порядок проведения торгов:** шаг аукциона - 5%. Победителем торгов будет объявлено лицо, предложившее наибольшую цену.

**Размер задатка** для участия – 10% от начальной цены лота перечисляется до подачи заявления на р/с продавца.

**Заявки на участие** принимаются организатором торгов по адресу: 220026, г. Минск, а/я 109, до 10-00 18.05.2017.

**Задаток** перечисляется на счет продавца - ООО "Спецрезервстрой" (УНП 690695128) р/с 3012100025094, код 153001742 в ОАО "Белгазпромбанк" г. Минск, УНП 690695128.

**Документы,** необходимые для участия в торгах: заявка на участие в аукционе; платежный документ о перечислении задатка; документ, подтверждающий полномочия на участие в торгах.

**Сроком поступления заявления** является дата регистрации в журнале регистрации.




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№18 (1149) 5.05.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 422. Падпісана ў друк у 9.00 4.05.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.